

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 4(99) Красавік 2002 April Год выд. 10.




**Вітаем Усіх нашых чытачоў з Вялікоднымі сьвятамі!..**



# Адраджэньне

**"За намі 84 гады гісторыі, і мы нашы ідэалы не здадзім!" У Мінску прайшло святочнае пасяджэнне, прысвечанае чарговым угодкам БНР.**

25 сакавіка, увечары пасля таго, як большасць затрыманых падчас нядзельнай акцыі была выпушчана на волю, у сталічным Доме ветэрана адбылася вечарына, прысвечаная 84-й гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

"Схіляем галаву перад мужнасцю тых, хто ў прапахлым парахавым дымам 1918 годзе насуперак акупантам усіх масцей абвясціў волю беларусаў да ўласнай дэмакратычнай, нацыянальнай дзяржавы! БНР была сапраўды народнай рэспублікай, -- заявіў лідэр Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" Вінцук ВЯЧОРКА. -- Нас нікому не задушыць. Мы нікога не баімся. За намі 84 гады гісторыі, і мы нашы ідэалы не здадзім!".

Вольга ІПАТАВА, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў сказала: "Наша вольная, незалежная Беларусь -- гэта тая Беларусь, да якой мы ідзём так доўга, так цяжка і сапраўды вельмі трагічна".

На сцэну таксама быў запрошаны толькі-толькі пакінуўшы калонію Андрэй Клімаў. Андрэй КЛІМАЎ: "У турме я вельмі добра ўсвядоміў адну рэч -- чалавек моцны не толькі розумам, чалавек моцны духам. Я вельмі веры, што нарэшце выйду на свабоду, і я выйшаў, зараз я бачу і веру ў тое, што на Беларусі ёсць каму адстойваць яе незалежнасць, ёсць каму змагацца за эканамічны росквіт". Нам ёсць куды ісці, нам ёсць што вымятаць з нашага дома. Жыве Беларусь!"

Алег ТРУСАЎ, старшыня Таварыства беларускай мовы: "Толькі наша родная беларуская мова можа аб'яднаць нас, таму што беларусы -- шматканфесійны народ, шматпартыйны народ. І толькі дзякуючы нашай мове мы пераможам. Спадзяюся, што 85-я ўгодкі БНР мы будзем святкаваць ужо ў незалежнай, вольнай Беларусі".

Галантны Рыгор БАРАДУЛІН у адказ на запрашэнне выйсці на подыум з віншаваннямі... устаў на калені перад абаяльнай Зінаідай БАНДАРЭНКА і назваў яе "міс Свабодай" ды "шаноўнай паненкай Вясной".

Кіраўніцтва Мінскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" ўручыла ўзнагароды абаронцам "Курапатаў": Паўлу Севярынцу -- медаль Кастуся Каліноўскага, а медаль Анатоля Бярозкі "Кветка Радзімы" -- Сяржуку Мацкойцу, Генадзю Дранковічу, Сяржуку Высоцкаму і Ірыне Вяткінай.

Гледачы с задавальненнем паслухалі выступы гуртоў "Старая Літва", камернага хору "Унія", барда Зміцера Сідаровіча. Няблага прэзентаваў свой голас таксама дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканя Павел Знавец. А вядомы адвакат Вера Страмкоўская выступіла ў абліччы беларускай Уітні Х'юстан -- праспявала на англійскай мове.

Завяршылася вечарына агульнымі спевамі пад гітару, у якіх першым голасам выступаў музычная зорка мітынгаў і шэсцяў, хлопец з прыемным і чымсьці такім беларускім голасам -- Аляксей Галіч...

Алесь СІЛІЧ. (Н. Воля)

*****************************************************************************************



# Якім быць мемарыялу?

Ядвіга МАЦКЕВІЧ (Наша Сваб.)

*Адбылося чарговае паседжанне грамадзянскай ініцыятывы «За ўратаванне Курапатаў». Гэтым разам тэмай абмеркавання стаў мастацкі вобраз мемарыялу, які павінен паўстаць на месцы забойства ахвяраў палітычных рэпрэсій Канцэпцыю мемарыялу ўзгаднілі і прынялі на мінулым паседжанні. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з папярэднім праектам, прапанаваным Камітэтам міру, гэты варыянт выглядае бліжэйшым да рэчаіснасці.*

Аднак пра мастацкае ўвасабленне згаданая канцэпцыя кажа досыць агульнымі фармулёўкамі. У ёй толькі адзначана, что «па ўсім перыметры гістарычна-культурнай каштоўнасці належыць устанавіць агароджу з брамай», а «існуючы Крыж пакуты і памятныя знакі ўшанавання павінны застацца дамінантай будучага мемарыялу». А таксама падкрэсліваецца, што «ў мастацкім увасабленні мемарыялу непрымальная гігантаманія канструкцый і збудаванняў». Напэўна, гэта адказ ініцыятывы на недарэчную прапанову Камітэту міру ўзвесці на месцы пахаванняў 25-метровы крыж, «зроблены з усіх народаў дрэваў Беларусі».

Два паняцці, якія, на думку ўдзельнікаў паседжання, найбольш пасуюць да мемарыялу, што мае паўстаць, – гэта «смутак» і «адкупленне». Першае азначае тое, што неад'емна прысутнічае на кожным месцы пахавання, – смутак праз страту чалавека, другое – «адкупленне граху перад продкамі і абяцанне наступным пакаленням не дапусціць такой трагедыі».

Валянціна Трыгубовіч прапанавала выкарыстаць таксама сімвал раптоўна абарванага чалавечага жыцця: зламаную кветку, разбіты кубак ці пасудзіну. «Мастацкі вобраз павінен быць дастаткова выразны, каб не даць сцерціся ў памяці народу той трагедыі, што адбылася ў Курапатах», – адзначыла сп. Трыгубовіч. Прагучала думка, што, акрамя памяці пра ахвяраў, у мемарыяле павінен прысутнічаць і вобраз ката. Але чый гэта вобраз і хто канкрэтна вінаваты ў паламаных лёсах курапацкіх ахвяраў, прысутныя так і не вызначылі. Адназначнага рашэння па мастацкім увасабленні не прынялі. Удзельнікі абмежаваліся агульнымі словамі і выказваннем сваіх меркаванняў.

Традыцыйна вострa пры абмеркаванні праблемы мемарыялу паўстала рэлігійнае пытанне. Наконт гэтага прагучалі вельмі розныя меркаванні. Напрыклад, гісторык Ігар Кузняцоў лічыць, што надаваць будучаму мемарыялу нейкі рэлігійны змест не мае ніякага сэнсу, бо ўвасобіць шматканфесійнасць Беларусі ў межах мемарыялу ўсё роўна не атрымаецца, а ў такім выпадку «альбо мы пагаджаемся з дамінантай адной з канфесій і поўнай яе манаполіяй на Курапаты, альбо непазбежны канфлікт».

У канцэпцыі помніка пазначана, што мастацкае ўвасабленне мемарыялу павінна быць прымальнае для розных канфесій, а «культавыя збудаванні, якія, магчыма, будуць створаныя ў перспектыве, павінны быць па-за межамі ахоўнай зоны». Такім чынам, яе стваральнікі схіляюцца да таго, што мемарыял павінен мець выключна грамадзянскі характар і быць пазбаўлены рэлігійнага напаўнення. Узнікае пытанне, што ў такім выпадку рабіць з Крыжам, вобраз якога трывала асацыюецца з Курапатамі?

Удзельнікі дыскусіі пагадзіліся, што ўсе дакументы, датычныя Курапатаў, маюць сёння агульны характар, і што дагэтуль ніхто не вызначыўся з крытэрамі, паводле якіх павінны будавацца помнікі ахвярам генацыду.

Па сутнасці, спрэчкі вакол мемарыялу цалкам нагадваюць агульную сітуацыю ў беларускім грамадстве – разгубленасць, адсутнасць ідэй і нежаданне браць адказнасць за тое, што адбываецца.

Застаецца інтрыгуючай загадкай і галоўнае: ніхто не ведае і не разумее, калі можа быць узведзены мемарыял, хто і ў якіх аб'ёмах яго прафінансуе (дзяржава, грамадскія арганізацыі, народ, замежныя фундатары і г. д.)…

++++++++++++++++++++++++++++++++++++

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Будзем прыглядацца:

# Мова, чыноўнікі й адукацыя: "распрацаваць", "пашырыць"...

Летась, яшчэ ў жніўні, Міністэрства адукацыі прыняло чарговую пастанову, якою зьбіраецца пашырыць сетку школаў, гімназіяў, ліцэяў з выкладаньнем на беларускай мове. Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў падтрымалі прапанову дазволіць ствараць у ВНУ беларускамоўныя плыні. Калі чыноўнікі не заўпарцяцца - гэта можа стаць першым крокам у чарговай спробе пераводу сыстэмы адукацыі на беларускую мову. А можа й ня стаць...

Беларуская мова й яе месца ў сыстэме адукацыі - гэтыя праблемы турбуюць грамадзтва не адзін дзясятак гадоў. Рэальную магчымасьць атрымліваць адукацыю ў роднай мове беларусы атрымалі, як ні дзіўна, у Першую Ўсясьветную вайну, за часоў нямецкай акупацыі. Менавіта немцы першымі дазволілі ўжываць беларускую мову ў адукацыйнай сфэры, а зусім не бальшавікі, як нават дагэтуль сьцьвярджаюць школьныя падручнікі. Наадварот, пры саветах, пачынаючы з 1930-х гадоў, беларуская мова паступова страчвае свае пазыцыі ўва ўсіх сфэрах жыцьця грамадзтва.

У 1958 годзе ў Менску з 58 школаў беларускамоўнымі былі толькі 10. У 1960-70-я гады пашырылася практыка "вызваленьня" школьнікаў ад вывучэньня беларускай мовы. Гэтак, у 1969 годзе ў БССР не вывучалі беларускай мовы 30% школьнікаў, а ў Менску - 90%. У 1972/1973 навучальным годзе ў расейскамоўных школах навучаліся амаль 52% школьнікаў Рэспублікі, прычым у гарадох - пад 98%.

У 1980-я гады агульны стан беларускай мовы навукоўцы ацэньвалі як "катастрафічны". Пасьля надышла пара чарговае "беларусізацыі", пра якую сёньня засталіся адно настальгічныя ўспаміны...

Поўнаю нечаканасьцю стала для ўсіх прыняцьцё Міністэрствам адукацыі "Праграмы дадатковых захадаў на пашырэньне сфэры выкарыстаньня беларускае мовы ў сыстэме адукацыі" - так афіцыйна завецца гэты дакумэнт. Праграма, на жаль, не была апублікаваная ў СМІ й таму невядомая бальшыні грамадзянаў. Гэта - нутраны міністэрскі акт. Таму мы ўважаем за патрэбнае назваць такія-сякія пункты Праграмы.

Такім чынам, Міністэрства адукацыі плянуе:

- пашырыць сетку школаў, гімназіяў, ліцэяў з арганізацыяй навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове;
- паступова перавесьці на беларускую мову візуальную інфармацыю ў навучальна-выхаваўчых установах;
- пашырыць вядзеньне справаводзтва на беларускай мове;
- пашырыць сетку дзіцячых дашкольных установаў зь беларускай мовай выхаваньня ў гарадох;
- распрацаваць пэрспэктыўны плян адкрыцьця беларускамоўных плыняў у гуманітарных, тэхнічных, вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных навучальных установах;
- адкрыць у вышэйшых навучальных і сярэдніх спэцыяльных установах навучальныя групы, аддзяленьні зь беларускай мовай навучаньня.

Вышэй пералічаныя пункты - далёка ня ўсе, зафіксаваныя сярод захадаў міністэрства для пашырэньня беларускае мовы ў адукацыйнай сфэры. Найважнейшыя й найбольш рэальныя ў пляне іх ажыцьцяўленьня пункты тычацца стварэньня беларускамоўных плыняў у ВНУ. Між іншага, парлямэнт прыняў пастанову забясьпечыць абавязковае здаваньне пры ўступных экзамэнах у ВНУ дзьвюх дзяржаўных і аднае замежнае мовы. Але тут шмат "падводных камянёў".

Вось што мяркуюць на гэты конт дэпутат Палаты прадстаўнікоў Іван Пашкевіч і намесьніца старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

**І.П.:** - Мы ўзаконілі, што сёньня чалавек павінен здаваць тры экзамэны - зь беларускае, расейскае й аднае замежнае мовы. Цяпер гэтыя палажэньні закону трэба ставіць на кантроль перад Міністэрствам адукацыі, каб яно распрацавала адпаведныя захады.

**Л.Д.:** - Гэта, ведама ж, добра - абавязковыя экзамэны па беларускай, па расейскай і ангельскай мовах. Гэта паказьнік таго, што мы выходзім за межы білінгвізму, а ён нам ужо надакучыў, бо сапраўднага білінгвізму ў нас няма й не было. І таму, калі пытаньне пастаўленае гэтак, дык полілінгвізм - гэта, відаць, найлепшая сытуацыя для нашае Беларусі.

**І.П.:** - Такая на першы погляд добрая пастанова потым перакрэсьліваецца нястачаю, прыкладам, сродкаў. Чыноўнік, карыстаючыся гэтаю "падставаю" можа й не дапусьціць стварэньня беларускамоўных плыняў.

Каб засьцерагчыся ад нечаканасьцяў, - кажа Людміла Дзіцэвіч, усьцешаная прыняцьцём міністэрскае Праграмы, - ТБМ будзе трымаць яе выкананьне "пад кантролем".

**Л.Д.:** - Мы людзі навучаныя. Мы ведаем, што сёньня праграма адна, заўтра - другая, сёньня праграма пачынаецца, а заўтра згортваецца.

Нягледзячы на пэўны скепсіс, міністэрская Праграма ўжо рэалізоўваецца.

**Л.Д.:** - На сёньня адзін з пунктаў гэтае праграмы практычна ў стадыі выкананьня. Прынятая пастанова стварыць на базе менскае школы №23 беларускамоўную гімназію.

Ініцыятыва адкрыцьця гімназіі належала Бацькоўскай радзе, што існуе пры Таварыстве беларускае мовы. Адкрыцьцё гімназіі - падзея даволі незвычайная на фоне агульнае дзяржаўнае палітыкі ў сфэры адукацыі. Ці закончыцца чым добрым супраца ўладаў і грамадзтва стане ясна 1 верасьня.

Наагул жа, спробы адкрыць новыя беларускія школы або клясы - ня тое што гімназію - у нашай краіне сутыкаюцца з мноствам цяжкасьцяў. Тое, што магчымае юрыдычна, не магчымае фактычна. Старшыня Менскае гарадзкое арганізацыі Таварыства беларускае мовы Алена Анісім: - Мы не дамагліся таго, каб кожны мог даць свайму дзіцяці адукацыю ў беларускай мове бесьперашкодна. Нам тэлефанавалі бацькі й паведамлялі, што, калі яны прыходзілі ў школы, якія гарадзкое Ўпраўленьне адукацыі абвясьціла апорнымі школамі, дзе магчымае стварэньне беларускамоўных клясаў, у іх заявы маглі браць, маглі ня браць, але казалі, што беларускіх клясаў у такіх школах ствараць ня будуць.

Каб адкрыць беларускую школу, трэба шматкроць абысьці адпаведныя інстанцыі, пры гэтым станоўчы вынік не гарантаваны. Да таго ж беларускамоўныя грамадзяны дзейнічаюць паасобку, незгуртавана.

Але існуе яшчэ адна праблема: чаму бацькі пры кожнай нагодзе пераводзяць сваіх дзяцей у расейскамоўныя клясы й школы. Што выступае асноўным матывам? Бо беларуская мова даўно перастала быць ніжэйшаю, непрэстыжнаю.

На гэтае пытаньне паспрабавала адказаць Алена Анісім: - Адміністрацыя не ўва ўсіх школах забясьпечвае заяўлены ровень навучаньня дзяцей па-беларуску. Скажам, ёсьць у нас "беларуская гімназія (ня буду казаць, якая), дзе прадметаў не выкладаюць па-беларуску. Настаўнік прыходзіць у клясу й пытаецца: "Якою моваю вам выкладаць прадмет?" Паколькі ў ВНУ бальшыню прадметаў выкладаюць па-расейску, дзеці кажуць: "Выкладайце па-расейску".

Беларускамоўная школа можа існаваць толькі пры ўмове стварэньня беларускага ўнівэрсытэту. Будзе беларускі ўнівэрсытэт - будзе беларускае навука й грамадзкае жыцьцё. Цяпер жа, калі па-беларуску "гавораць" толькі гісторыкі, філёлягі ды часам географы - пра пэрспэктывы мовы няма чаго казаць. Мова павінна абслугоўваць усе сфэры жыцьця грамадзтва - ад судоў да аэрапортаў, ад сельсаветаў да Адміністрацыі прэзыдэнта.

А інакш ёсьць і будзе так, як расказвае Сьвятлана Ёкша: - Мы неяк ехалі з старэйшым сынам, Алесем, у тралейбусе й пачулі як маці з дачкою гаварылі па-беларуску. У Алеся зьявіўся агеньчык у вачох, ён кажа: "Мама, глядзі, мы не адзінокія..." У нашым раёне, Кунцаўшчыне, чуеш і бачыш дзяцей, якія размаўляюць па-беларуску. Гэта вельмі рэдка... Дзеці хочуць, бацькі не вытрымліваюць...

Паводле апошняга перапісу 37% жыхароў РБ гавораць па-беларуску. Але пераканацца ў гэтым на практыцы бадай немагчыма. На вуліцах гучыць у найлепшым разе трасянка. Нармальная ж мова - рэдка. Усё адначасна проста й складана. Беларускамоўныя гавораць па-беларуску пераважна дома, на працы, а ў краме, як адзін славуты паэт, просяць "хлебушка с изюмчиком".

У горадзе беларускую мову найчасьцей чуваць ад студэнтаў. Але колькі тых студэнтаў... Між тым, магчымасьці вучыцца па-беларуску ёсьць, праўда, каб гэтую магчымасьць зьдзейсьніць, трэба нястомна патрабаваць і дамагацца выкананьня пастановаў Міністэрства адукацыі. Бо, паводле згаданае вышэй міністэрскае Праграмы, калі студэнты пажадаюць адкрыць беларускамоўную плынь, адміністрацыя ўнівэрсытэту абавязаная пайсьці насустрач. Гэта тычыцца найперш тых ВНУ, дзе беларуская мова ўжо мае пэўныя пазыцыі.

**Л.Д.:** - Беларуская мова ўтульна пачуваецца ў пэдагагічным унівэрсытэце, унівэрсытэце культуры, тэхналягічным унівэрсытэце. Гэта тыя ВНУ, якія "апраўдваюць" свае назовы "беларускіх" унівэрсытэтаў.

У пытаньні пашырэньня сфэры ўжываньня беларускае мовы ў ВНУ кіраўніцы ТБМ Людміла Дзіцэвіч і Алена Анісім спадзяюцца на закон.

**Л.Д.:** - У Законе аб адукацыі ўведзены артыкул, дзе гаворыцца, што ў нашых дзяржаўных ВНУ адкрываюцца беларускамоўныя плыні. Гэта дзяржаўны акт. З гэтага пачынаецца беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт.

**А.Анісім:** - Пытаньне з наборам у беларускія клясы разьвяжацца тады, калі сярэднія й вышэйшыя навучальныя ўстановы пяройдуць на беларускую мову выкладаньня. Паказальна, што пра гэта кажам ня толькі мы, але кажуць і адказныя асобы.

**Л.Д.:** - У пэрспэктыве нас чакае я не сказала б, што беларусізацыя, але найбольш актыўныя дзеяньні на захаваньне правоў беларускамоўных жыхароў і самае беларускае мовы.

Міністэрства адукацыі пакуль не плянуе адкрываць у Менску беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт. Акрамя таго, з прычыны нястачы сродкаў поўная рэалізацыя дзяржаўнай праграмы разьвіцьця беларускай мовы застаецца пад вялікім пытаньнем. Пад пытаньнем - і будучыня беларускае мовы, але гэта - іншая тэма для гутаркі.

Віктар **Корбут** (R. R.)

## Дзень Волі: песьні й гвалт

Міліцэйскім гвалтам скончылася ў Менску вулічнае сьвяткаваньне чарговых угодкаў Беларускае Народнае Рэспублікі. Зьбітыя й затрыманыя больш за 60 ўдзельнікаў мірнага шэсьця па праспэкце Ф. Скарыны.

Сьвята пачалося ўскладаньнем кветак да помніку Я. Купалу ў сквэры імя песьняра, дзе сабралася некалькі тысяч чалавек. Вось як акрэсьліў сутнасьць імпрэзы старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка.

- Мы сьвядома абралі сьвяточны фармат, сьвядома падкрэсьленую аптымістычную рэжысуру – паспрабавалі стварыць беларускі творчы гайд-парк. Беларускі Гайд-парк са сквэру Янкі Купалы сапраўды атрымаўся. Прысутныя мелі магчымасьць выбраць міні-імпрэзу на выбар.

Над людзьмі луналі беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі, а таксама штандары з сымболікай БНФ, Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, Беларускай партыі Свабоды, "Маладое Грамады " й Маладога Фронту. З прысутных палітыкаў перад публікай выступіў адно Вінцук Вячорка.

# "Магутны Божа" -- наш нацыянальны гімн

**Яго прыняла на ўрачыстым сходзе беларуская дэмакратычная грамадскасць...**

## МАГУТНЫ БОЖА

*Музыка М. Равенскага. Словы Наталлі Арсенневай.*

***Магутны Божа! Уладар сусветаў,***
***Вялізных сонцаў і сэрц малых,***
***Над Беларуссю, ціхай і ветлай,***
***Рассып праменне Свае хвалы.***

***Дай спор у працы будзённай, шэрай***
***На хлеб штодзённы, на родны край.***
***Павагу, сілу і веліч веры***
***У нашу праўду, у прышласць дай.***

***Дай урадлівасць жытнёвым нівам,***
***Учынкам нашым пашлі ўмалот,***
***Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай***
***Краіну нашу і наш народ!***

Каля трох гадзін удзельнікі сходу вялі "гімнавую" дыскусію. Варта было паслухаць аргументы тых, хто ўсходзіў на трыбуну.

**Ніл Гілевіч,** народны паэт Беларусі: *"Гімнам павінна быць песня, якая ўжо кранула сэрцы людзей. Напісаць такую песню "па заказу" нельга".*

**Віктар Войцік,** кампазітар: *"Творчая інтэлігенцыя, ды й увесь народ, не вераць урадавай камісіі, баючыся, што прыняцце Дзяржаўнага гімна выльецца ў чарговую прафанацыю... Мне здаецца, што пасля дзесяцігоддзяў бязвер'я, няўпэўненасці нашаму народу патрэбна малітва, якая нясе надзею і дае сілы. Гэта малітва ў нас ёсць – "Магутны Божа".*

**Вольга Іпатава,** старшыня Саюза пісьменнікаў: *"Паглядзіце на нашых лю-дзей – яны ходзяць па вуліцах, апусціўшы галовы.Беларусы павінны адчуць сваю годнасць, яны павінны часцей глядзець на неба. Мая прапанова – прыняць у якасці гімна спеў "Магутны Божа".*

**Генадзь Бураўкін,** народны паэт Беларусі: *"Нацыянальны гімн – песня, якая аб'ядноўвае самых розных людзей, песня, якую б зразумелі і продкі, і нашчадкі. Таму мы не можам пайсці па смешнаму, міхалкоўска-расійскаму шляху і падстаўіць новыя словы пад стары савецкі гімн".*

**Уладзімір Басалыга,** старшыня Саюза мастакоў: *"Калі гімн пішацца для ўлад – гэта адно, для народа – зусім іншае. Ёсць адна песня, і я ёй аддаю і руку, і сэрца – гэта "Магутны Божа". І не трэба гаварыць, што ўлады могуць не прыслухацца да нас. Вялікага значэння гэта не мае".*

**Вера Страмкоўская,** адвакат, праваабаронца: *"Я бачыла, як людзі ідуць на палітычныя акцыі са спевам "Магутны Божа", людзей за ўдзел у акцыях судзяць, і ў судах таксама гучыць "Магутны Божа", нават міліцыянты ўжо вывучылі гэты спеў".*

**Разалія Александровіч,** прадстаўнік Згуртавання беларускіх татар: *"Мы лічым сябе часткай беларускага народа, і кожнае мерапрыемства ў нас пачынаецца з малітвы "Аль-Фаціха" і з малітвы "Магутны Божа". Малітва – гэта такі стан, калі чалавек злучаецца з Сусветам".*

Прыкладна ў такім жа накірунку гаварылі мастак Аляксей Марачкін, сябра ЦК БСДП Павел Знавец, старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец... Даволі нечакана прагучала выступленне вядомага барда Сержука Сокалава-Воюша, які зазначыў, што сама Наталля Арсеннева, аўтар тэксту, пела "Магутны Божа" толькі ў царкве. Нельга, сказаў прамоўца, усё жыццё спадзявацца на Бога. Гімн павінен падтрымліваць асабістую адказнасць чалавека за ўсё, што ён робіць на Зямлі. Былі і іншыя меркаванні. Вінцук Вячорка, лідэр БНФ, напомніў: у Беларускай Народнай Рэспубліцы быў гімн – "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", таму ў якасці нацыянальнага трэба прыняць менавіта яго.

Многія з тых, хто выступаў, выказваючыся за "Магутны Божа", прапаноўвалі надаць гэтаму спеву гімнічную аранжыроўку, выконваць больш строга, і гэта была слушная прапанова.

Падчас галасавання рэйтынг склаўся такім чынам: песня "Радзіма мая дарагая" (музыка Алоўнікава) атрымала 1 голас, спеў "Пагоня" (два музычныя варыянты) – 19 галасоў, марш "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (музыка Тэраўскага) – 23 галасы, кант "Фанфары" з "Полацкага сшытка" – музыкі XVII стагоддзя – 27 галасоў, спеў "Магутны Божа" (музыка Равенскага) – 63 галасы. Перамога спева "Магутны Божа" была сустрэта апладысментамі.

У гэты ж дзень, 10 сакавіка (апошні дзень, калі заканчваўся тэрмін падачы варыянтаў будучага новага гімна на ўрадавы конкурс), грамадскасць накіравала абраны нацыянальным гімн "Магутны Божа" ў дзяржка-місію, якую ўзначальвае віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын і якая будзе вызначаць тры лепшыя версіі. Нагадаем: канчатковае рашэнне наконт новага Дзяржаўнага гімна Беларусі прымуць дэпутаты Нацыянальнага сходу і прэзідэнт.

**Дзяржаўны гімн у нас яшчэ не прыняты, а нацыянальны ўжо ёсць.**

**Святлана ШЫДЛОЎСКАЯ**. (Рабочы)

# Выміраем...

Некаторыя статыстычныя паведамленні, калі ў іх глыбока ўдумацца, могуць выклікаць сапраўдны шок. Як вось гэтае, што нядаўна прагучала па радыё: з 1 сакавіка нас, беларусаў, стала 9 мільёнаў 951 тысяча 300 чалавек - менш чым было год назад. А мы яшчэ па старой звычцы ў пафасных прамовах і грунтоўных артыкулах усё гаворым пра "дзесяцімільённы народ". Няма ўжо дзесяці мільёнаў. Ды і дэмаграфічнага выбуху ў блізкай перспектыве не прадбачыцца. Памалу, паціху, бяздумна і бязвольна вымiраем мы, браткі-беларусы, так і не паспеўшы зрабіць свой мілы край багатым і вольным, незалежным і квітнеючым. Усё больш нашых землякоў перасяляецца на свае апошнія "кватэры" каля гарадскіх ускраін і на вясковых узгорках, і ўсё меней ружовашчокіх беларускаў крычыць у цёплых калысках у Гродне і Кобрыне, Бабруйску і Мазыры. Калі ў 2000 годзе ў Беларусі нарадзіўся 93.691 чалавек, а памерла 134.867 чалавек, дык у мінулым годзе нарадзілася ўжо 91.677 чалавек, а памерла - 139.904 чалавекі. Насельніцтва скарацілася ў пазамінулым годзе на 41.176 чалавек, а ў мінулым - на 48.227 чалавек. Сумная, небяспечная тэндэнцыя імкліва набірае разбег...

"Беларусы сталі вымiраючай, хворай і ненараджаючай нацыяй", - горка канстатаваў галоўны акушэр-гінеколаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Уладзімір Сялява. І сведчыць гэта, між тым, пра ўсеагульную апатыю, пра раўнадушша, а можа, і бяссілле дзяржавы ў вытрапаванні генафонду нацыі, у забеспячэнні рэальных перспектыў дабрабыту новым пакаленням грама-дзян. Вядома ж, не знікла з беларускай зямлі каханне, і сёння шчаслівa бягуць на спатканні маладзенькія хлопцы і дзяўчаткі, і сёння іхнія гарачыя сэрцы поўняцца радасцю ад нясмелых слоў прызнання і першых няўмелых пацалункаў. Але не спяшаюцца яны завесці сям'ю, баяцца браць на сябе адказнасць за лёс дзетак, за працяг "чалавечага роду". І ці варта іх папракаць за іхні празмерны прагматызм, за іх жаданне "падоўжыць юнацтва", калі на ўласныя вочы яны бачаць, як ажно высільваюцца стомленыя бацькі, каб на стале кожны дзень быў хлеб з маслам, а на плячах - чыстая кашуля? Хіба не глыталі яны слінку каля вітрын з заморскімі прысмакамі і не ўздыхалі ўпотай каля экранаў тэлевізараў, дзе вострую зайздрасць выклікала моднае ўбранне іхніх выпешчаных багацкім равеснікаў?

Думаю, менавіта ў нашай беднасці, а не ў нейкіх таямнічых сусветных законах смяротнасці і нараджальнасці, на якія глыбакадумна спасылаюцца часам чыноўнікі, хаваецца прычына трагічнага змяншэння колькасці беларусаў на зямлі. У нас даўно ўжо ніхто не праводзіў усебаковага і глыбокага аналізу харчавання людзей, а яно не толькі не разнастайнае і прымітыўнае, а і густа пасыпанае чарнобыльскім пылам. У нас з года ў год не толькі вяскоўцы, а і жыхары вялікіх гарадоў, такіх, як, напрыклад, Полацк, скардзяцца на недахоп нармальнай пітной вады. У нас даведзена "да ручкі" дзяржаўная ахова здароўя, а заканадаўцы як выйсце з гаротнага становішча абмяркоўваюць увя-дзенне так званай платнай медыцыны. У нас няспынна растуць цэны на лекі і рахункі за карыстанне дзіцячымі садкамі... І ўсё гэта ў "аазісе стабільнасці", у "самым паспяховым кутку СНД", пра дасягненні якога штодзённа балабоняць першы нацыянальны тэлевізійны канал і нядрэмнае рэспубліканскае радыё...

Як адцягнуць людзей ад невясёлых думак пра свой сённяшні дзень, ад прадчування яшчэ большых непрыемнасцяў заўтра? Ёсць даўні, правераны вякамі, надзейны славянскі спосаб - п'янае забыццё. І вось тут нашы ўлады дамаг-ліся несумненных заваёў. Па Беларусі вольна разліваецца цэлае мора разнастайных моцных напояў - ад фірменных гарэлак і каньякоў да славутых пладоваягадных він і "забойнага" самагону. У любым гастраноме пераможна ззяюць магутныя батарэі бутэлек з мудрагелістымі наклейкамі, на якіх можна вывучаць не толькі маршруты саракаградуснай прадукцыі, а і далёкую і блізкую гісторыю - тут табе і "Цар", і "Генерал", і "Распуцін", і "Крамлёўская", і "Белая Русь"... І кожны год дабаўляе навінак у гэты бясконцы спіс. Як паведаміла Міністэрства статыстыкі і аналізу, сёлета ў студзені выпуск алкагольных напояў у параўнанні з мінулагоднім студзенем павялічыўся на 26,2 працэнта, а агульная рэалізацыя іх вырасла на 5,1 працэнта. Гэта пры тым, што з "закуссю" справы абстаяць куды горш: вытворчасць ялавічыны зменшылася ў студзені на 14,6 працэнта, вараных каўбас - на 5, хлеба і хлебабулачных вырабаў - на 6,3 працэнта... І, дарэчы, цэны на гарэлку павышаюцца ў нас не так прыкметна, як на прадукты. Разумныя нашы чыноўнікі клапоцяцца пра любімы свой электарат, даюць яму магчымасць "адключыць мазгі". А тое, што такім чынам падрываецца здароўе народа, ідзе дэградацыя нацыі, іх не дужа турбуе. Галоўнае для іх - утрымаць уладу, справіцца ж з п'янымі і хворымі куды прасцей, чым са здаровымі і разумнымі.

Відавочная і яшчэ адна асаблівасць у паводзінах нашых дзяржаўных мужоў - амаль поўнае ігнараванне праблем у духоўным жыцці беларусаў. Хаця якраз тут, як няцяжка заўважыць, вымiранне ідзе проста ашаламляльнымі тэмпамі. Краіна, якая мае назву Рэспубліка Беларусь, раўнадушна глядзіць на тое, як у яе грамадзян дэманстратыўна выціскаюць адчуванне нацыянальнай годнасці, павагу да сваёй гісторыі і культуры. Школьнікам з захапленнем расказваюць на ўроках пра паходы Аляксандра Суворава, які пакінуў свой шырокі крывавы след на Брэстчыне, і маўчаць пра бліскучыя бітвы Канстанціна Астрожскага, прызнанага адным з найвыдатнейшых палкаводцаў Еўропы. Ім загадваюць дэталёва вывучаць жыццеапісанні рускіх цароў і мімаходзь знаёмяць з Еўфрасінняй Полацкай і Кірылам Тураўскім. Настаўнікі пытаюцца ў іх пра карціны Рэпіна і забываюць распавесці пра палотны Бялыніцкага-Бірулі... А які шквал замежнай папсы абрынаюць на галовы моладзі дзяржаўнае тэлебачанне і радыё! А як рашуча адпіхаюць ад парламенцкіх трыбун і міністэрскіх кабінетаў родную мову!.. Гэта ж таксама забіванне беларуса ў беларусе. Гэта таксама сведчанне нашага вымірання, маўклівага і пакутнага канання нас як народа...

Горка, сумна, страшна. І яшчэ - крыўдна, што родная дзяржава, якая, здавалася б, павінна найбольш турбавацца пра наша духоўнае і фізічнае здароўе, бо ўрэшце і існуе да таго часу, пакуль ёсць мы, не толькі не б'е трывогу, а робіць выгляд, што нічога не адбываецца, шукае нейкіх прывідных саюзаў і магутных апекуноў. А беларусаў усё менее...

Дык няўжо і сапраўды праз нейкага паўвека прыйдзе-такі час, калі на шырокай цэнтральнай плошчы абноўленага Мінска проста не бу-дзе каму молада і ўрачыста гукнуць: "Жыве Беларусь!"

Генадзь БУРАЎКІН (Бел. Час)



# Апошнія рамантыкі

Ужо паўгода ва ўрочышчы Курапаты стаіць палатка, дзе нясуць кругласутачную вахту абаронцы гэтага трагічнага месца. Прычынай таму стала пашырэнне будаўніцтва Мінскай кальцавой дарогі, якая згодна з планамі будзе праходзіць амаль па астанках ахвяраў сталінскіх рэпрэсій. Сёння, каб не дапусціць блюзнерства, брацкія магілы абараняюць юнакі (у большасці сваёй навучэнцы вузаў) з розных маладзёвых арганізацыяў. Іх многія называюць апошнімі беларускімі рамантыкамі. Бо хто яшчэ пагадзіцца сядзець на працягу некалькіх месяцаў у лесе дзеля ідэі?

**Жыццё ў палатцы**

Спачатку юнакі планавалі жыць у хатцы, якую і пачалі будаваць. Але пасля штурму 8 лістапада, калі АМАП спрабаваў разагнаць абаронцаў лагера, усё было зруйнавана бульдозерам. Прыйшлося паставіць палатку, дзе з цягам часу з'явілася печка, ложкі, канапа, посуд.

Ваду хлопцы бяруць у аднаго ўдзельніка пасляваеннага антыкамуністычнага супраціву, які жыве ў доме непадалёку. Стары вельмі перажывае з-за курапацкай гісторыі, таму дапамагае чым толькі можа. І просіць юнакоў, як памрэ, пахаваць яго менавіта ў Курапатах.

- Вы ведаеце тысячу спосабаў прыгатавання макаронаў? - нечакана спытаў у мяне хлопец па мянушцы Чуб.

- Не, - адказала я.

- Вось і мы не ведаем, - працягнуў ён. - Таму і гатуем заўсёды аднолькава. Мы іх варым. Макароны, часам з тушонкай, а часцей без, хлеб ды сала - вось і ўсё меню абаронцаў Курапатаў. Праўда, час ад часу ежу ім прыносяць звычайныя людзі. Якраз падчас нашай размовы ў палатку ўвайшла жанчына, якая працуе крытыкам на кінастудыі "Тацяна". Яна прынесла рыбу ды бліны, каб "хлопцы адсвяткавалі масленіцу". Праблемы з дровамі пакуль таксама няма: да лета хопіць, упэўнены юнакі.

Сваю вахту яны нясуць пазменна, па 5-10 чалавек. Днём патрулююць лес ды ставяць крыжы, а ўначы размаўляюць ля вогнішча.

На журналісцкія пытанні ці не страшна начаваць сярод магіл, юнакі адказваюць, што трэба баяцца не мёртвых, а жывых. "Начаваць не страшна, - кажуць яны, - страшна не прачнуцца".

**Зіма ў Курапатах**

У палатцы было вельмі холадна. Прыходзілася суткамі ся-дзець ля вогнішча. Але гэта мала дапамагала: спераду цела награвалася да болю, а спіна замярзала. Акрамя таго, часцяком дровы былі сырыя і прыходзілася распальваць вогнішча з дапамогай газы. Амаль усе абаронцы перахварэлі на грып. З-за неда-статковага лячэння ў многіх пачаліся абвастрэнні: у каго - пнеўманія, у каго - запаленне вуха, у каго – зубоў.

Новы год прайшоў лепш, чым чакалася. Людзі прынеслі столькі ежы, розных прысмакаў, тартоў, што можна было харчавацца ўдосталь. Усю ноч юнакі сядзелі каля вогнішча, размаўлялі, вялі ідэалагічныя спрэчкі. У 12 гадзін абаронцы Курапатаў выйшлі за дарогу і адкрылі бутэльку шампанскага.

Дарэчы, юнакі самі у курапацкім урочышчы не п'юць, і другім не даюць. З прыходам цяпла з'явілася яшчэ адна праблема. Людзі цэлымі сем'ямі прыходзяць на месца масавых расстрэлаў на пікнікі. Але вырашаецца гэта вельмі проста. Хлопцы проста падыходзяць да адпачываючых і расказваюць ім гісторыю гэтага месца. Пасля гэтага народ звычайна збіраецца і пакідае курапацкі лес.

Амаль адзінымі суразмоўцамі хлопцаў з'яўляюцца будаўнікі ды амапаўцы. І з першымі, і з другімі цяпер усё складваецца даволі проста. Будаўнікі шугаюцца, калі ім нешта пачынаеш гаварыць: сорамна, але праца ёсць праца. Амапаўцы з хлопцамі за руку вітаюцца, любяць паразмаўляць, сумкі пакінуць, каб хлопцы прыглядзелі, нават час ад часу прыходзяць адпачыць, паспаць. Абсалютна спакойна рэагуюць на бел-чырвона-белы сцяг, які вісіць на палатцы. А нядаўна яны па ўласнай ініцыятыве збіралі ў лесе смецце.

Час ад часу ў Курапаты прыязджаюць наведвальнікі з іншых гарадоў і нават дзяржаў, каб падтрымаць абаронцаў. Адзін з іх нават застаўся ў Курапатах разам з хлопцамі.

- Я прыехаў сюды пад Новы год з горада Мурама, што ў Расіі, - гаворыць чалавек, якога тут клічуць Антось, - таму што, па-першае, я не мог ужо збоку назіраць тое, што адбываецца ў Беларусі. Курапаты ўвасабляюць для мяне зону свабоды. А па-другое, для мяне гэта месца памяці, таму што мае продкі таксама былі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. Я да гэтага часу не ведаю, куды іх саслалі, дзе расстралялі. Можа хто-небудзь з іх застаўся тут. Зараз я выконваю свой абавязак: абараняю іх спакой.

**"Маладая"**
**і "дарослая" апазіцыя**

- Мы не пакінем Курапаты нават нягледзячы на тое, што расчараваліся ў "дарослай" апазіцыі, - выказвае агульную думку 19-гадовы Эмі, які абараняе Курапаты амаль з першага дня. - Усё ж такі гэта месца, дзе яна зараджалася. Тут вельмі добра разумееш сітуацыю, якая склалася ў беларускай апазіцыі. У нас тут ёсць прадстаўнікі розных партый, і паміж намі няма ніякіх канфліктаў, мы аб'яднаныя агульнай думкай. Сварка ідзе паміж кіраўнікамі нашых партый, якія толькі і думаюць аб тым, як знайсці боль цёплае месца. Але ёсць мы - моладзь. І мы робім і будзем рабіць нешта, таму што ў нас яшчэ ёсць вера ў светлую будучыню.

Адносіны з "дарослай" апазіцыяй у абаронцаў Курапат насамрэч склаліся даволі напружаныя. Напрыклад, перад самым Новым годам хлопцы адмовіліся прымаць ад каардынатараў "Хартыі-97" прэмію за асабістую мужнасць і абарону Курапат. Кажуць, што проста не хацелі мець нічога агульнага з арганізацыяй, якая з'яўляецца вельмі далёкай ад усяго беларускага. "Ды і спробы функцыянераў "Хартыі" зарабіць грошы на тых, хто сапраўды адстойвае Беларусь, нам не падабаюцца", - патлумачылі мне ў палатцы.

- А ў прынцыпе тут, у Курапатах, узнікае адчуванне, нібы час спыніўся, - расказвае Цімур. - Усе спрэчкі пачынаюць здавацца дробнымі і непатрэбнымі. Тут пачынаеш разумець нешта большае...

- Як думаеце, чаму ўлады да гэтага часу вас адсюль так і не "выкінулі"? - спыталася я.

- Улады, канешне, могуць зламіць нас сілай, - уступае ў размову Чуб. - Але ім хочацца, каб мы самі пакінулі гэтае месца. Для гэтага час ад часу прадпрымаюцца ўсялякія меры. Напрыклад, была спроба падпаліць палатку. Нам з вялікімі намаганнямі ўдалося патушыць пажар, таму што, чым больш мы лілі вады, тым больш разгаралася полымя. Тыдзень таму нас спрабавалі травіць газам, якога напусцілі вакол палаткі ноччу. У нас пачаліся жудасны кашаль, слёзы, ірвотныя пазывы. Мы выбеглі з палаткі і ўбачылі ў лесе людзей у камуфляжы.

**Змагацца**
**да поўнай перамогі**

Юнакі не збіраюцца пакідаць Курапаты да таго часу, пакуль не будзе скончана будаўніцтва МКАД і мемарыяла ахвярам сталінскіх рэпрэсій. На думку хлопцаў, абараняць Курапаты ім давядзецца, прынамсі, да лістападу.

- Мы застанемся тут да поў-най перамогі, - кажуць юнакі.- Нам проста няма куды адступаць. Акрамя нас, Курапаты ніхто не абароніць. У нас жа ўсе прызвычаіліся змагацца толькі час ад часу. А тут трэба спакойна і ўпарта.

---

## "Ніколі болей" -- так называецца кніга пра ГУЛАГ,

**напісаная былымі вязнямі сталінскіх засценкаў.**

Унікальнае выданне падрыхтавала Гродзенская абласная асацыяцыя палітычных рэпрэсій (старшыня П.Жук) і Гродзенская тэрытарыяльная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" (старшыня М. Патрэба). Кніга надрукавана ў Вільне (выдавецтва "Наша Будучыня") накладам усяго 300 асобнікаў.

---

# Каб ім такую пэнсію!

Прыкладна **два даляры ў месяц** - такую пэнсію й надалей будзе атрымліваць былы старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня прафэсар Станіслаў Шушкевіч. Менавіта такое рашэньне прыняла ў аўторак судзьдзя Маскоўскага раёну сталіцы Вольга Гусакова пасьля разгляду грамадзянскай справы па скарзе Станіслава Шушкевіча на адрас Міністэрства працы й сацыяльнай абароны. Экс-кіраўнік беларускай дзяржавы й ягоны прадстаўнік у судзе зьбіраюцца абскарджваць зьдзеклівы, на іхную думку, вырак у вышэйшых інстанцыях.

Штоpазу цяжэй знаходзіць лёгіку прыняцьця рашэньняў судамі ў нашай краіне. На думку судзьдзі Маскоўскага райсуду сталіцы Вольгі Гусаковай, а таксама Міністэрства працы й сацыяльнай абароны (што наагул сьмешна ў сьвятле прынятага ў аўторак рашэньня), у Беларусі чалавек можа пражыць і на 2 даляры. Нагадаю, што экс-кіраўнік Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня прафэсар Станіслаў Шушкевіч ужо 5 гадоў атрымлівае пэнсію памерам 3.196 рублёў, што ў пераліку й складае гэныя 2 даляры. Нават крыху менш. Прафэсар Шушкевіч апошні год актыўна ліставаўся з рознымі аддзеламі Міністэрства працы, рознымі ўстановамі, абавязкам якіх ёсьць выкананьне пэнсійнага заканадаўства ды, урэшце, Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам права на годнае існаваньне. З усіх установаў экс-сьпікер атрымліваў проста адпіскі, на пераразьлік пэнсіі й кампэнсацыі ніхто не пайшоў. Довады прадстаўнікі зацікаўленага боку, Міністэрства працы й сацыяльнай абароны, прыводзілі самыя розныя. І, маўляў, няма такога дзяржаўнага органу, як Вярхоўны Савет, няма грошай у дзяржаве, і што сам Шушкевіч нібы адмаўляецца перааформляць пэнсію (незразумела, чаму тады скарга разглядалася ў судзе), і, урэшце, ня можа названае міністэрства разьвязваць праблемаў пераразьліку й пералічэньня пэнсіяў грамадзянаў.

Нагадаем яшчэ адзін факт: у 1997 годзе Лукашэнка выдаў дэкрэт №16, у якім літаральна назваў асобаў, што маюць адмысловыя заслугі перад беларускім народам, якім гарантаванае пэнсійнае забесьпячэньне й мэдычнае абслугоўваньне як дзяржаўным дзеячом або асобам, прыроўненым да іх. Незразумела, якія такія асаблівыя заслугі перад беларускім народам маелі камуністычныя дзяржаўныя мужы як Мікалай Сьлюнькоў, Ахрэм Сакалоў або Мікалай Дземянцей, што трапілі ў сьпіс, прыведзены ў дэкрэце, але першаму кіраўніку незалежнай Беларусі месца ў ім не знайшлося. Таму й атрымлівае Станіслаў Шушкевіч сьмешную пэнсію ў 2 даляры. Пасьля вынясеньня судовага рашэньня Станіслаў Шушкевіч нават не адразу здолеў адкамэнтаваць вырак.

**С.Ш.:** - Я не магу ніяк адкамэнтаваць, бо суд у нас робіць тое, што патрабуюць ад яго ўлады. І вось суд палічыў, што 3.196 рублёў - дастатковая пэнсія. Такім чынам, камэнтаваць тут нічога й ня трэба. Гэта ўсё паказвае, якія ў нас парадкі.

Тым ня менш, каб давесьці працэдуру да канца, Станіслаў Шушкевіч і ягоны абаронца зьбіраюцца абскардзіць прысуд у вышэйшых інстанцыях.

**С.Ш.:** - Мы будзем абскарджваць рашэньне ўва ўстаноўленым парадку. Я, шчыра кажучы, не сумняюся ў тым, якое будзе прынятае рашэньне далей. Мне падаецца, што сьведчаньнем таго, што адбываецца сёньня ў Рэспубліцы Беларусь, ёсьць тое, што адбылося ў гэтай зале.

Рашэньне судзьдзі Гусаковай здаволіла прадстаўнікоў Міністэрства працы й сацыяльнай абароны. Прадстаўнік міністэрства Валянціна Каралёва дагаварылася нават да таго, што Шушкевіч атрымлівае сёньня пэнсію, якую хоча сам.

**В.К.:** - На мой взгляд, решение суда соответствует тому, что есть на самом деле. А в самом деле Станислав Станиславович получает ту пенсию, которую он желает получать на сегодняшний день.

**Ганьба Лукашэнку і яго неабчэсаным халуём...**

---

**Паважаныя чытачы "Беларускага Дайджэсту"!**
**Калі ласка, не забывайце перасылаць грашовую ахвяру**
**на выдавецкі фонд газэты...**

# Святы Казімір – заступнік Літвы

**Жарты, смех, песні, музыка, гандаль, вясёлыя твары людзей, то сонейка, то снег – усё гэта тры дні панавала ў старажытнай Вільні. Горад і цэлая краіна святкавалі дзень святога Казіміра, альбо, як кажуць літоўцы – Казюкас. Падчас здавалася, што ты трапіў у сапраўдны Вавілон, ад гэтага цяпло і весела на душы. Такое забытае пачуццё...**

Нейкі час я прыпыніўся побач з Віленскай ратушай, каб паназіраць за італьянцамі. Жанчына ўвішна разглядала пляцёныя кошыкі. Яна перабірала то большы, то потым меншы, як бы гублялася і не магла падабраць нечага адпаведнага. Высокі мужчына з загарэлым тварам з непрыхаваным здзіўленнем больш разглядаў людзей і напэўна намагаўся зразумець: адкуль, куды і навошта. У гэты час падаў даволі густы снег. Цёплая дублёнка і зімовая шапка на італьянцу яўна сядзелі незвычайна: яны неадпавядалі ягонаму памеру. А ён смачна зацягваўся цыгаркай і задаволена круціў галавой, пераходзячы з аднаго мейсца на другое, паколькі яго пастаянна падціскалі ўсё новыя і новыя людзі. Нарэшце куплены маленькі кошык, але рука адразу пацягнулася да суседняга століка, дзе ляжала мноства ўпрыгожванняў з каляровага шкла. Мужчына міла ўсміхаўся, але праз некаторы час загаварыў са сваёй паненкай. Італьянскую мову цяжка зблытаць з якой-небудзь іншай.

Мы прыехалі ў Вільню пад абед і хацелі прыпаркавацца дзе-небудзь бліжэй да цэнтра. Нават праехаць па вузенькіх вулачках было праблематычна. Паўсюдна людзі, у адзін і другі бок з закупамі: сувенірамі і патрэбнымі ў гаспадарцы рэчамі. Найбольш кідаюцца ў вочы пляцёныя кошыкі і карзіны. Яны такія розныя: адныя проста, каб хадзіць у краму ці па грыбы, у іншыя можна складваць бялізну, альбо цыбулю, альбо нешта пакласці, як ў чамаданчык, закрыць покрыўкай, і спакойна насіць. Практычна ў кожнага ў руках вербачкі: самых розных колераў і памераў. Але гэта не проста вербачкі, гэта толькі літоўскія вербачкі. Падобных не робяць ні беларусы, ні палякі. Колькі любові здольнасці трэба прыкласці, каб з сухіх кветачак ці каласкоў выплесці такую прыгажосць.

А вось дзядзька на плячах цягне драўлянага мядзьведзя, аж пакрэхвае. Нічога дзіўнага – той зроблены з цэльнага дрэва, лічы – нясеш на плячах добрае браўно. А вось яшчэ маладая пара: ў руках вялізныя каваныя вешакі, і дзяўчына так зухавата ўпіраецца. Магчыма побач недзе іх машына, бо інакш на тварах не было б такога здаровага аптымізму. Усё «герай», як кажуць літоўцы..

– Юзэф, хоць, шыпцей – махае задаволеная кабета – патч цо званезла, які сурвэткі... У беднага Юзэфа заплечнік адцягвае спіну, трымае ў руцэ шапку, расшпіліў куртку і з валасоў валіць пара. Так упрэў бядняга.

– Прашом, прашом – паказвае свой тавар маладзенькая літоўка. – Ачю, ачю лабай, – дзякуе за пакупку.

Злева мінаюць два мужчыны ў чорных паліто і без шапак, у іх няма нічога ў руках, але словы «костэн», «ніхт тоер», «гут» – мне знаёмы з нямецкай.

– Сигареты, нет, только такие, извини старик, дешевле не могу.

Тут расклалі на бруку вогнішча і ў вялікім катле нешта гатуюць. Побач прадаюць шашлыкі, стаяць драўляныя столікі, абгароджаныя абцясанымі друкамі. Гэта сапраўднае сярэднявечча. Прадаюць каня і гусей.

– Васіль, я тут у краму злётаю, глядзі, нікуды не адыходзь, – даносіцца родная мова незнаёмых людзей.

Дзесяць метраў ідзём паўгадзіны. Вулачка вузкая, а нейкая пераапранутая джаз-банда маладых музыкаў выдае незнаёмыя песні. Народ не хоча праходзіць, кідаюць грошы, асабліва задаволены дзеці, танцуюць.

Далей дзядзька з 30-х гадоў, грае на акардэоне, на самым рагу вуліцы і на вузенькім ходніку, а побач бляшанка пад грошы. І шапка на ім такая, як у 30-я, і акардэон стары, і бляшанка, як у тыя часы. Вочы разбягаюцца на гэтым свяце. Ад катэдры і да самой Вострай брамы вуліца ператварылася ў кірмаш. Бары і кавярні працуюць да самае ночы. Гандлююць..., чым толькі не гандлююць. Сюды з'ехаліся рамеснікі з усяе Літвы. А ўяўляю, што рабілася на гэтых вузенькіх вулачках, калі ў сярэднявеччы сюды з'язджаліся рамеснікі з усяго Вялікага княства Літоўскага...

Жанчына з Клайпеды, у якой я набываю сувэніры, распавядае, што яны пачынаюць працаваць ад чатырох гадзін раніцы і да позняга вечара. Да дзесяці гадзін яшчэ можна прайсці больш-менш вольна, а потым вуліца ператвараецца ў раку, толькі з двума цячэннямі. Так і было на самай справе.

**З гісторыі і легендаў**

Каралевіч Казімір быў нашчадкам славутага роду Гедэмінавічаў. Яго бацька – Казімір Ягелон, Вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі. Маці – Эльжбета з роду Габсбургаў, дачка імператара святой Рымскай імперыі. У Казіміра было пяць сясцёр і пяць братоў. Амаль усе яны парадніліся з князямі Нямеччыны і сталі каралямі. І толькі адзін наш святы Казімір, у гонар якога і ладзіцца гэта свята з сярэднявечча, у ладзе імкнуўся да ўлады – ён стаў святым. Разам з братамі і сёстрамі атрымаў выдатную па тых часах адукацыю. Ягоны настаўнік, польскі гісторык Ян Длугаш, так пісаў пра свайго вучня: «Прыгожы, на рэдкасць здольны і вельмі разважлівы юнак». Каралевіч Казімір добра ведаў гісторыю, валодаў некалькімі замежнымі мовамі, любіў вершы і пісаў іх сам. Акрамя таго, што быў разумны, да ўсяго быў прыгожы і прывабны, падцягнуты і чарнавокі. Праўда, у хуткім часе ягоныя настаўнікі адзначалі асаблівую набожнасць юнака. Ён уставаў і клаўся спаць з малітвай, не любіў пустых забаваў, жыў проста і дапамагаў бедным, абяздоленым і калекам. «Пасля Бога найбольш трэба любіць праўду і справядлівасць», – так казаў каралевіч Казімір. На жаль, пражыў каралевіч толькі 25 гадоў. Ён памёр ад чахоткі ў нашым Гродне ў 1484 годзе, 4 сакавіка. Тут ён жыў у Старым замку разам з сваёй світай. Яго астанкі былі перанесены ў Вільню і захаваны ў Кафедральным касцеле. Людзі прыходзілі да ягонай магілы і маліліся. Гэта месца было прызнана цудатворным.

Аднак найвялікшае цуда святога Казіміра прыпадае на 1518 год. Згодна легенды, тады на землі Вялікага княства Літоўскага напала шматлікае войска Масковіі. Яны збіраліся захапіць Полацк. Невялікі атрад вялікакняскіх воінаў не мог прыняць бой. Тады кароль Жыгімонт Старэйшы папрасіў аб дапамозе свайго памёршага брата Казіміра. Здзіўленыя воіны раптам пабачылі ў хмарах юнака ў белых адзеннях і на белым кані. Абадзёраныя такім цудам, яны абаранілі свой горад ад маскоўцаў. Вось такая прыгожая легенда.

У 1602 годзе папа Клеменс VIII аб'явіў Казіміра святым. З тае пары ён і стаў заступнікам Літвы. У тыя часы і тэрыторыя сучаснай Беларусі ўваходзіла ў ВКЛ: у адной дзяржаве два народы пражылі 500 гадоў. Зрэшты, гэта вядома цяпер кожнаму школьніку.

І больш пяці стагоддзяў святы Казімір апякуецца Літвой у гады цяжкіх выпрабаванняў. Дарэчы, апякуецца ён і намі, толькі мы пра гэта не ведаем, можа папросту не хочам гэтага ведаць. Падчас вясенніх кірмашоў лічылася, што «без Казюка – няма руху».Майстры і рамеснікі верылі ў свайго заступніка і ведалі, што гандаль ім заўсёды ўдасца. Вераць яны і дагэтуль, і вера гэта спраўджваецца.

Вось адсюль і Казюкас – так шануюць яго людзі ў Літве з часоў сярэднявечча. І з тых часоў кожны год у Вільні ладзіцца свята святога Казюкаса, падчас якога і праводзіцца цудоўны кірмаш рамеснікаў з усяе краіны. Аб ім ведаюць у Еўропе, а таму з задавальненнем, калі стала магчымасць, пачалі прыязджаць сюды турысты.

Адна цікаўная дэталь. На вуліцах, як павялося, гандлюць толькі рамеснікі, і ніякіх выяздных крамаў з гарэлкай, шапікаў з мясакамбінатаў, калгасаў і саўгасаў няма. Цэлы стары горад і так у барах і кавярнях, кожны дзень, і нават без свята. Зрэшты, няма п'яных. Людзі толькі заходзяць туды з'есці гарачай стравы, папіць піва. Калі не ў адным, то ў іншым бары абавязкова можна знайсці месца, каб сесці нават цэлай кампаніяй. Зрэшты, у старой Вільні можна паспрабаваць любую кухню: літоўскую, польскую, кітайскую, карэйскую, японскую, італьянскую... І нікому ў галаў не стрэліць вывозіць на вуліцу прадаваць гарэлку, як гэта робіцца ў Гродне. Дарэчы, і смецце за сабой прыбіраюць майстры і рамеснікі самі, не ствараючы дадатковых праблем для камунальных службаў.

І яшчэ адна цікавостка. Адзін літоўскі гісторык распавядаў мне, што ў часы сярэднявечча ў дзень святога Казюкаса падчас кірмаша, закаханыя маладыя людзі дарылі адзін аднаму падарункі, якія набывалі ў майстроў. Але гэта традыцыя чамусці знікла. Цяпер і ў Літве святкуюць дзень святога Валянціна.

**А што ў нас?**

Распавядалі, што ў нядзелю ў нашым горадзе Казюкі праводзіў Саюз палякаў Беларусі. Сабралі каля 30 рамеснікаў у скверы на Савецкай плошчы. Напісалі ім бэджыкі па-польску, уручылі дыпломы ад СПБ, пацешыліся, парадаваліся і можна сказаць, аднавілі свята. Ушанавалі народную традыцыю і, святога Казіміра. Нікому не скардзіліся пра фінансавыя цяжкасці, наколькі маглі, зрабілі рэкламу ў газетах. Прыходзілі людзі, нешта набывалі і задаволеныя разыходзіліся. А вось што датычыць цэлых аддзелаў культуры з гар – і аблвыканкама, то да народнага свята ніхто і рукі не прыклаў. Напэўна, не ведаюць, або не дазваляюць, альбо няма грошай, альбо яшчэ якой трасы.

**М. КАРНЕВІЧ** (Бірж. Інф.)

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# Як Вільня сталася жамойцкім горадам?

У міжваенным перыядзе (1921-1939 гады) Вільня была палітычным і культурным цэнтрам Заходняй Беларусі, яе неафіцыйнай сталіцай. Тут знаходзіліся сядзібы ўсіх беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, працавалі беларуская гімназія, беларускі музей, шэраг навуковых і культурна-асветных установаў, рэдакцыі газет і часопісаў. Праўда, становішча ўвесь час мянялася да горшага, і напярэдадні Другой сусветнай вайны колькасць іх у выніку шавіністычнае палітыкі польскіх уладаў значна зменшылася.

Пасля прыяднання Заходняй Беларусі да БССР беларускае грамадзянства Вільні было перакананае, што горад будзе нарэшце ў складзе беларускай рэспублікі. Афіцыйныя савецкія ўлады нават наладзілі масавую ўрачыстасць з нагоды далучэння Вільні «на векі вякоў». Была створаная Віленская вобласць, пачала выходзіць, як і ў іншых абласных цэнтрах, газета «Віленская праўда» на беларускай мове. Але сталася інакш.

10 кастрычніка 1939 года Сталін перадаў Вільню з Віленскім краем (гэта быў абшар з насельніцтвам 457 тысяч чалавек) Летуве. Нарком замежных справаў СССР Молатаў адзначаў тады: «Мы ведаем, што большыня насельніцтва гэтага абшару не летувіская. Але гістарычнае мінулае ды імкненні летувіскага народа цесна звязаны з горадам Вільня, і ўрад СССР уважаў за неабходнае шанаваць гэтыя маральныя фактары». Зразумела, што такое «дабрадзейства» мусіла быць аплочанае. Напачатку Масква атрымала права на размяшчэнне ў Летуве вайсковых базаў, а неўзабаве, як вядома, і ўвогуле «праглынула» яе. Пасля далучэння Віленшчыны да Летувы жамойцкае насельніцтва горада стала імкліва ўзрастаць за кошт перасяленцаў з этнічных жамойцкіх земляў. Адбывалася гэта і дзякуючы прытоку рабочых рук у прамысловасць, і ў выніку наплыву масы чынавенства, паліцыі, войска.

Становішча беларусаў тут сталася яшчэ горшае, чым пры палякаў. Летувіская прапаганда сцвярджала, што яны не беларусы, а «страчаныя летувісы», што ім трэба толькі змяніць прозвішча, дадаўшы «-ас», «-іс» або «-ус», ды навучыцца жамойцкай мове. Беспрацоўе сярод беларусаў павялічылася, яны дыскрымінаваліся пры ўладкаванні на дзяржаўную службу. Тыя ж з іх, хто нарадзіўся па-за Віленшчынай, увогуле не маглі атрымаць летувіскае грамадзянства.

У часе вайны ініцыятарамі карных захадаў з боку немцаў супраць нацыянальна сведамых беларусаў нярэдка былі польскія шавіністы. Гэта разам з перадваеннымі сталінскімі рэпрэсіямі спрычынілася да катастрафічнага змяншэння колькасці беларускай інтэлігенцыі ў Вільні. І тым ня менш у вайну тут яшчэ працавалі беларуская гімназія, настаўніцкая семінарыя, пачатковыя школы, выдавалася газета.

Паводле «Каляндарных нататак» Адама Станкевіча, пры канцы вайны летувісы панічна баяліся беларусаў, справядліва мяркуючы, што іхны актыўны калабарацыянізм, з аднаго боку, і шырокі супраціў беларусаў фашысцкай акупацыі ды іх каласальныя ахвяры - з другога, могуць даць падставу для паваеннага перагляду лёсу Вільні. Але Сталін не палічыў патрэбным вяртацца да гэтага пытання.

Канчатковае знішчэнне беларускага культурнага асяродку ў Вільні адбылося адразу пасля вайны. Летувіскі ўрад у асобе міністра асветы Ю.Жугжды не дазволіў адчыніць тут ніводнай беларускай школы, чаго дамагаліся А.Станкевіч ды іншыя беларускія дзеячы. Былі ліквідаваныя беларуская гімназія, настаўніцкая семінарыя, славуты музей

імя І.Луцкевіча. Усё гэта адбывалася адначасна з новай хваляй рэпрэсій супраць нашай інтэлігенцыі. Практычна ўсе беларускія нацыянальныя дзеячы і іх сем'і падпалі пад арышты і дэпартацыю.

Па ўзгадненні з Масквой і Варшавай замест беларускіх школаў пачалі насаджацца польскія і расейскія, было наладжанае выданне газеты «Чырвоны штандар» на польскай мове. Як і раней, польскія ксяндзы стараліся ўбіць у галовы беларусам-каталікам, што ўзапраўды яны палякі. У гэтым былі зацікаўленыя і летувіскія ўлады. Яны, відаць, не бачылі іншага шляху дэнацыяналізацыі беларусаў Віленшчыны, бо разумелі, што перавярнуць іх на жамойтаў досыць праблематычна.

Тым не менш, маючы на мэце змяніць дэмаграфічную сітуацыю на сваю карысць, яны імкнуліся накінуць на беларусаў хоць бы сваю вонкавую абалонку: дзе толькі магчыма, запісвалі іх жамойтамі, перакручвалі імёны і прозвішчы на свой капыл (Міцкявічус замест Міцкевіч, Васіляўскас замест Васілеўскі, Астраўскайтэ замест Астроўская, Жвірбліс замест Верабей і г.д.). Адначасова праводзілася масавае перасяленне ў Вільню сялянаў з этнічнай Летувы. На працягу толькі 1944-1946 гадоў сюды прыбыло блізу 100 тысяч новых жыхароў.

Праводзілася татальная летувізацыя тапанімікі Вільні і Віленскага краю (Меднікі сталі Мядзінінкай, Свянцяны - Швянчоніс, Салечнікі - Шальчынінкай, Вострая Брама - Аўшрас і г.д.).

Такім чынам Вільня набыла нязвыклае для сябе аблічча, упершыню за сваю шматсотгадовую гісторыю стаўшы жамойцкім горадам.

*******************************************

# Кавярня “Архэ”, альбо Хлеб напалам з ружамі, альбо

### *Зь дзёньніка канадзкай іміграньткі*

**Напачатку сумленна шукала працу “па спэцыяльнасьці”...**

Пошук працы па спэцыяльнасьці выглядаў не такой і безнадзейнай задумай, бо адных расейскамоўных газэтаў у Таронта выдаецца больш за дзясятак. Першае ж знаёмства з расейскамоўным канадзкім друкам выклікала дадатковы прыліў аптымізму: авой, колькі ж там памылак! Паціраючы рукі у прадчуваньні неабсяжнай працы, я за пару гадзінаў набрала на суседзкім кампутары сваю працоўную біяграфію ("рэзюмэ", як тут кажуць), напісала там пра шматгадовы досьвед рэдагаваньня і карэктаваньня тэкстаў на розных мовах і разаслала лісты ва ўсе расейскамоўныя рэдакцыі. Ледзяное маўчаньне было мне адказам. Потым мне растлумачылі, што “рэдакцыя” ў эміграцкіх газетах часьцей за ўсё складаецца з мужа ды жонкі альбо двух шваграў, газэта зазвычай робіцца ў бэйсмэнце (цокальным паверсе) ўласнага дому, і галоўнае яе прызначэньне — зьмясьціць як мага больш рэклямы (да 70—80% газэтнай плошчы). На нешматлікія вольныя месцы напросту скачваюцца тэксты зь Інтэрнэту. Дарэчы, мясцовая рэкляма — гэта часам маленькія шэдэўры: “*Всемогущая ясновидящая гадалка... Помогаю при импотенции, в иммиграции*”; “*По воскресеньям в нашем ресторане играет оркестр. В репертуаре — ВСЁ!*”...

Але час ішоў, грошы памалу сканчаліся, і я пачала шукаць ну хоць нейкую працу, якая б дазволіла на кідаць заняткаў на курсах ангельскай мовы.

...Тут бачу на найбліжэйшым супэрмаркеце аб'яву: патрабуюцца памочнікі на выходныя. Тое, што трэба! Бяру ў краме “аплікант форм” — анкету для паступаючых — і лячу дадому яе запаўняць. Адукацыя? Вышэйшая, вядома. Якімі мовамі валодаеце? Пералічваю пяць ці шэсьць. Апошняе месца працы? Часопіс і газэта. Рэкамэндацыі? Ад галоўнага рэдактара. Кім хочаце працаваць у супэрмаркеце? Ды ўсё адно кім: хоць падлогу мыць, хоць чэкі на касе выбіваць...

Аб'ява пра пошук работнікаў вісела на вітрыне яшчэ добрых паўтара месяца, але дарма я чакала, што нехта мне затэлефануе. Кожны раз, калі я ішла ў гэтую краму па прадукты, вялікія літары “Патрабуюцца памочнікі!” цьвялілі і раздражнялі мяне: ну няўжо яны думаюць, што маёй кваліфікацыі не хапіла б, каб раскладаць па палічках кансэрвы?

Расказала я пра гэты абуральны, як мне здавалася, выпадак на паседжаньні Згуртаваньня беларусаў Канады. Як пачалі ўсе зь мяне сьмяяцца! Здурнела, кажуць, — якая журналістыка?! Якая вышэйшая адукацыя?! Ідзеш у гандлярку — пішы, што ўсё жыцьцё стаяла за прылаўкам, наймаешся ў прыбіральшчыцы — значыць, заўсёды мела справу толькі зь вядром ды анучай. Бо ёсьць у канадзкіх наймальнікаў такая прыхамаць: цябе ніколі ня возьмуць на працу, калі палічаць, што ты для яе “оўвэрэд'юкэйтыд”, то бок занадта вучоны.

Паспачуваўшы мне (і, відаць, клапоцячыся пра нашую плацежаздольнасьць), гаспадыня дому, у якім мы здымаем кватэру, абзваніла сваіх знаёмых — ці ня ведаюць яны часам, дзе патрэбныя работнікі. Азваўся шэф-кухар адной кавярні: акурат там шукалі пасудамыйку.

...Гэтым разам я ўжо была разумная і на пытаньне мэнэджэркі, ці мела я на радзіме досьвед аналягічнай працы, упэўнена адказала: “О, так!”. — “Дык раскажы, дзе ты працавала”, — пацікавілася яна. Каб маніць нязмушана і пераканаўча, трэба нешта маляўнічае сабе ўяўляць... і сказала: “Я працавала ў кавярні “ARCHE”... Гэта была зусім невялічкая кавярня, і месьцілася яна ў новым трохпавярховым будынку выдавецкага дому... і гэтак далей...

Ня ведаю, што было галоўнай прычынай посьпеху — ці мой мастацкі аповед, ці ўсё ж пратэкцыя шэф-кухара, але запаветны доступ да пасудамыйнай машыны я атрымала. І пакрыху канадзкае жыцьцё пачало адкрывацца мне зусім зь іншага боку.

Кавярня, куды мяне закінуў выпадак, знаходзіцца на Блуры — адной з галоўных вуліцаў Таронта — і завецца “Брэд энд Роўзыс” (“Хлеб і ружы”). Гэтае дзіўнаватае, на першы погляд, спалучэньне сталася геніяльнай знаходкай жонкі першага ўладальніка: дзяцей сюды цягне як магнітам. Напэўна, яны ўяўляюць сабе вялізны-вялізны торт, абсаджаны кветкамі з крэму. Такія тарты тут робяць і насамрэч, але ўпрыгожваюць іх зазвычай сьвежымі ягадамі, і гэты ліпенькі нацюрморт пасярод зімы глядзіцца ня менш казачна...

Гаспадары кавярні — палякі, 90% абслугі — таксама, і таму, апроч ангельскай мовы, я міжволі практыкуюся ў польскай, чым вельмі задаволеная. Сямейны бізнэс па-канадзку — гэта калі гаспадар кавярні ня толькі наймае на працу, але й сам пячэ тарты, ягоная сястра абслугоўвае наведнікаў нароўні зь іншымі афіцыянткамі, ягоны старэнькі бацька (першы ўладальнік) прыглядае за парадкам, пры патрэбе ўмее паправіць сантэхніку і часта сам мые на кухні катлы ад супу, а маці, таксама не маладзенькая, прыходзіць увечары зьняць касу, але пры гэтым часьцяком хапаецца за мятлу, каб дапамагчы нам прыбраць. Разьлік просты: чым больш працы зробяць самі гаспадары, тым хутчэй пойдуць дадому работнікі і тым менш давядзецца ім плаціць.

Амаль усе дзяўчаты і жанчыны, што працуюць са мной у “Брэд энд Роўзыс”, недзе вучацца — у дзённай ці вячэрняй школе, у каледжы, ва ўнівэрсытэце. У маладой канадкі-адзінаццацікласьніцы я запыталася, куды яна зьбіраецца паступаць пасьля школы. “Мая прафэсія будзе зьвязаная з ангельскай мовай”, — адказала яна. “Настаўніца?” — паспрабавала здагадацца я. — “Не зусім. Як бы гэта Вам растлумачыць... — яна паглядзела на мяне зь відочным сумневам. — Вы ведаеце, што такое журналістыка?” — “*Just a little bit*”, — адказала я цалкам шчыра.

Калясальная цяга да вучобы грунтуецца ў Канадзе на наймацнейшым стымуле: ты выразна бачыш у канцы доўгай дарогі вучнёўства прафэсію, якая дазволіць табе атрымліваць нашмат больш, чым 8 даляраў у гадзіну (у год гэта выходзіць трохі больш за шаснаццаць з паловай тысяч). Доктар, што працуе ў дзяржаўным шпіталі, зарабляе ад 80 да 160 тысяч даляраў у год, інжынэр — ад 60 тысяч і вышэй, юрыст — ад 75 тысяч і да бясконцасьці... Але, шаноўныя дактары і інжынэры на Радзіме, не рабіце памылкі, не прымярайце гэтых лічбаў да сябе! Калі вы прыяжджаеце ў Канаду, вам даводзіцца на працяглы час забыцца пра сваю вышэйшую адукацыю, навуковую ступень, ляўрэацкае званьне і г.д. Хутчэй за ўсё, спачатку давядзецца працаваць кіроўцам-дальнабойшчыкам, развозчыкам піцы, чорнарабочым на будоўлі, а жанчыны, найбольш верагодна, у першыя месяцы будуць прыбіраць дамы або даглядаць чужых дзяцей. Бо пры ўсіх вашых плюсах і перавагах вы ня будзеце мець найважнейшай, з пункту гледжаньня канадзкіх наймальнікаў, вартасьці — канадзкага досьведу працы. Да таго ж, большасьці спатрэбіцца не адзін год, каб навучыцца гаварыць “канадзкай ангельскай” вольна. І таму лепей загадзя сказаць сабе, што вы гатовыя пачаць з нуля, забыцца на амбіцыі, сьціснуць зубы і падрыхтавацца да шматгадовай аблогі канадзкіх прафэсійных цьвярдыняў.

Магу, да прыкладу, распавесьці, які шлях мусіць прайсьці наш інжынэр, каб атрымаць права і ў Канадзе звацца гэтым ганаровым імем. Па-першае: паперка пра “пацьверджаньне” дыплёму, якую вы атрымалі ў часе эміграцыі, ніякае ролі не адыгрывае і наагул вам не спатрэбіцца. Спачатку вы мусіце заплаціць грошы, каб пэўная арганізацыя “ацаніла” ваш дыплём на прадмет адпаведнасьці праслуханых вамі курсаў канадзкім стандартам. Ня майце ілюзіяў: праграмы шмат у чым не супадаюць. Значыць, прыйдзецца плаціць грошы за кожны курс, якога вам не стае. Колькі? Як патлумачылі майму мужу, інжынэру-мэталюргу, курс “Тэорыя зварачных працэсаў” у канадзкім Інстытуце тэхнічнага гандлю каштуе 9 тысяч даляраў за 400 гадзін. Не забудзьцеся, што ўвесь той час, які вы будзеце вучыцца, вам яшчэ трэба будзе аднекуль здабываць грошы на ежу і аплату кватэры: працаваць паралельна з вучобай вы, хутчэй за ўсё, ня здолееце. У канцы курсу — іспыты. Калі ня здаў — плаці грошы за вучобу яшчэ раз і слухай той самы курс у тым самым аб'ёме.

Але, дапусьцім, здабыў грошы, вывучыўся, пасьпяхова здаў іспыты. І адразу стаў інжынэрам? Дзе там! Далей яшчэ цікавей: мусіш гады два выконваць абавязкі інжынэра, але не на інжынэрскай пасадзе! Напрыклад, лічыцца тэхнікам, фактычна быць інжынэрам, але атрымліваць удвая-ўтрая ніжэйшы заробак. А пасьля такой “стажыроўкі” яшчэ мусіш знайсьці двух-трох інжынэраў, згодных даць табе рэкамэндацыі, безь якіх ня прымуць у Асацыяцыю прафэсійных інжынэраў Канады. Але й гэта яшчэ ня ўсё: далей трэба праслухаць (ізноў-такі не бясплатна) яшчэ некалькі спэцкурсаў, якія чытаюць толькі ў самой Асацыяцыі, напрыклад “Інжынэрную этыку”. І толькі пасьля гэтага Асацыяцыя выдае ў дрыготкія рукі шчасьлівчыка запаветную паперку — ліцэнзію інжынэра. Ні ў якай іншай краіне сьвету такой складанай працэдуры няма. Няцяжка здагадацца, навошта яна: наставіць як мага болей рагатак на дарозе “чужых”, каб не забіралі кавалак хлеба ў “сваіх”...

Цяпер уявіце, што вы — новы імігрант. Вам пад сорак, грошай на “давучваньне” да сваёй жа прафэсіі няма. Калі вы іх заробіце? Колькі гадоў яшчэ будзеце вучыцца? І колькі вам тады будзе?..

Вось чаму многія вырашаюць махнуць рукой на працяг кар'еры і пайсьці іншым шляхам — пагадзіцца зь пераменай прафэсіі, паступова “расьці” на новым месцы — ад пасудамыйкі да афіцыянткі, ад афіцыянткі да мэнэджэркі, ад мэнэджэркі да ўладальніцы аналягічнай кавярні. Жанчыны, што пачынаюць як прыбіральшчыцы дамоў, зь цягам часу, бывае, засноўваюць уласныя фірмы, прапануюць паслугі па прыбіраньні, наймаюць тры-пяць сьвежасьпечаных імігрантак — і працэс адаптацыі пачынаецца нанова... Праца чорнарабочым на будоўлі за 8—9 даляраў у гадзіну таксама можа скончыцца заснаваньнем невялічкай уласнай фірмы, якая будзе займацца будаўніцтвам ці добраўпарадкаваньнем дамоў. Але кожны з тых этапаў вымагае часу, цярплівасьці і цягавітасьці.

Я так падрабязна спыняюся на гэтых канадзкіх рэаліях, бо працягваю атрымліваць зь Беларусі электронныя лісты, зь якіх добра відаць, што людзі, якія ўжо наважыліся эміграваць у Канаду, абсалютна не ўяўляюць, што іх тут чакае. Аўтар аднаго зь лістоў, напрыклад, просіць высьветліць адрасы навукова-дасьледчых інстытутаў, каб па прыездзе шукаць там працы “хоць лябарантам”. Шукаць, вядома, не забаронена... Але ў мяне перад вачамі адразу паўстае нядаўна бачаная абвестка: “Патрабуецца пасудамыйка. Ня менш за год канадзкага досьведу працы”...

Другі мой карэспандэнт мае сумневы: ці не падманвае яго фірма, якая абяцае адразу па прыездзе ў Канаду ўладкаваць яго праграмістам. Хутчэй за ўсё, менавіта падманвае! Рынак праграмістаў у Канадзе акурат цяпер перанасычаны: увосень 2001 г. адбыліся масавыя звальненьні гэтай катэгорыі спэцыялістаў, і цяпер прафэсіяналам, якія толькі што прыехалі, можна разьлічваць хіба на неверагодную ўдачу альбо на вельмі блізкае знаёмства/сваяцтва з кіраўнікамі адпаведных фірмаў. Два знаёмыя праграмісты, якія прыехалі ў Канаду амаль адначасова з намі (каля дзевяці месяцаў таму), — абодва мелі добрую ангельскую мову і выдатныя рэкамэндацыі! — вымушаныя былі пачаць працаваць у якасьці маляра і целаахоўніка. Адзін зь іх знайшоў работу па спэцыяльнасьці толькі праз паўгоду, другі шукае дагэтуль... Таму, калі будзеце складаць валізы ў Канаду, ружовыя акуляры пакідайце дома. Канадзкі хлеб насамрэч напалам з ружамі: могуць трапіцца і кветкі, але спачатку наясіся шыпоў.

Першыя заробленыя тут даляры амаль ва ўсіх новых імігрантаў чамусьці выклікаюць моцнае пачуцьцё самапавагі. Той, хто служыў у войску, можа прыгадаць свае адчуваньні пасьля “вучэбкі” — напэўна, гэта штосьці падобнае. Першая атрыманая пасада прымушае больш уважліва прыглядацца да людзей навокал: тут любы кіроўца таксі можа выявіцца былым кандыдатам навук. Зрэшты, ведаю я і ў Беларусі нямала кандыдатаў навук, якія, каб зарабіць на хлеб, мусілі перакваліфікавацца ў таксістаў. Дык у чым, уласна, розьніца, запытаецеся вы?

Розьніца перш за ўсё ў адчуваньнях. Памятаю, што найбольш ціснула на мяне ў Беларусі — нават не безгрошоўе і праклятая вечная “эканомія” на ўсім, а прадчуваньне, што ўсё тваё жыцьцё вядомае табе наперад — “да апошняй бярозкі”, як напісала мне сюды адна мая сяброўка. Тут жыцьцё вельмі зьменлівае, ніколі ня ведаеш, што адбудзецца на наступны дзень, да якіх наступстваў можа прывесьці выпадковая размова ў аўтобусе... Напэўна, гэтая зьменлівасьць і хуткаплыннасьць — галоўнае, што дапамагае навічкам пратрымацца на плаву...

**Віялета Кавалёва,** Таронта, (Наша Ніва)

Уладзімір БАСАЛЫГА:

## "Самае каштоўнае -- воля"

Што думае наконт новага гімна ды і ўвогуле сітуацыі, у якой знаходзіцца краіна, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Басалыга? -- Якую ацэнку Вы маглі б даць тэксту мяркуемага гімна Беларусі -- "Магутны Божа"?

-- Сімволіку выбраць або стварыць -- нялёгкая справа. З гледзішча мастацкага прафесіяналізму цяперашні сцяг, спалучэнне чырвонага і зялёнага -- самае складанае. Прафесіянал павінен разлічаць суадносіны колераў.

Натуральна, што ў тых умовах і пры той хуткасці, якую патрабаваў час, сцяг быў створаны штучна. Сімвалы павінны ствараць людзі, якія маюць спецыяльную прафесійную адукацыю ў гэтай галіне мастацтва. Напрыклад, што тычыцца арнаменту, то ў сцягах еўрапейскіх краін арнаментаў ніколі не было, паколькі сцяг павінен быць выразны, нават калі на яго глядзець здалёк. А вось чырвоны і белы колер, калі прыгадаць гісторыю, мелі надзвычай важнае значэнне ў жыцці беларусаў. Белае адзенне заўсёды аздаблялася чырвонымі ўпрыгожваннямі.

На ўрачыстым сходзе дэмакратычнай грамадскасці, дзе абіраўся нацыянальны гімн, я галасаваў за "Магутны Божа", бо лічу, што гэты гімн самы велічны і самы "народны". Словамі гэтага гімна абсалютна любы чалавек можа звярнуцца да Бога. Падобныя словы могуць гучаць у сэрцы кожнага чалавека. І тут не іграе ролі канфесійная прыналежнасць.

-- Творчая інтэлігенцыя абрала свой гімн. Як Вы думаеце, якім будзе рашэнне дзяржаўнай камісіі?

-- У мяне няма аптымістычных прагнозаў. Як хутка зацвярджаўся герб, так, відаць, і будзе ў гэтым выпадку. Ці будуць дастаткова прадстаўлены інтарэсы тых, хто прагаласаваў за "Магутны Божа"? У Палаце Прадстаўнікоў амаль няма творчай эліты. Трэба задумацца, як у такім выпадку можна вырашыць праблему, звязаную з мастацкай і музыкальнай творчасцю народа.

-- Што, на Вашую думку, Беларусі дала незалежнасць?

-- Незалежнасць нічога не дае, калі яна табе не патрэбная. Калі чалавек выгадаваны рабом, то воля яму нічога не дасць. Такі чалавек не хоча думаць, штодня працаваць, а менавіта гэтага патрабуе ад чалавека свабода і незалежнасць.

Так, незалежнасць шмат каштуе. І нават не толькі воля ў шырокім разуменні. Таксама важная і незалежнасць ад абставін, гэта значыць магчымасць імі кіраваць, прымаць такія рашэнні, каб абставіны пайшлі табе на карысць.

Напрыклад, мастацтва ў нас на высокім узроўні. Нашых выкладчыкаў, мастакоў запрашаюць у Еўропу. Такі тавар, як інтэлект, у нас ёсць. Воля дае жаданне і магчымасць дасягаць новых вяршыняў у творчасці, навуцы...

-- Як Вы думаеце, чаму чалавек губляе незалежнасць, што яму "дапамагае" ў гэтым?

-- Больш моцная сіла: прапаганда, абяцанкі. Ленін менавіта так і зрабіў рэвалюцыю: заводы -- рабочым, зямлю -- сялянам. І людзі пайшлі за ім, а потым аказалася, што тыя спадзяванні, якія яны ўскладалі на новую ўладу, не апраўдаліся.

Думаю, што воля страчваецца ў несвядомасці. Зараз ужо ніхто не адкажа за тое, што я не вывучаў у школе Францыска Скарыну, Сымона Буднага, Васіля Цяпінскага і гісторыю Беларусі. Веданне гісторыі свайго народа -- адзін з фактараў, якія дапамагаюць усвядоміць чалавеку значнасць незалежнасці.

-- Чаго Вы чакаеце ад будучыні?

-- Я бачу Беларусь незалежнай і шчаслівай.

Гутарыла Алена ПАПЛАЎСКАЯ. (Н. Воля)

************************************************

## 25 сакавіка Дзень Волі адзначалі ў Беластоку

**У панядзелак на вуліцах горада можна было ўбачыць невялікія групкі людзей, якія мелі прыколатыя да вопраткі бела-чырвона-белыя значкі.**

Святкаванні Дня Волі пачаліся ў Беластоку яшчэ ў нядзелю ў будынку мясцовага тэатру. На імпрэзе прысутнічалі дзеячы беларускіх арганізацыяў Польшчы і найбольш знаныя беларусы Беласточчыны. Пасля святочных прамоваў удзельнікі імпрэзы паглядзелі дакументальныя кадры з шэрагу беларускіх акцыяў пратэсту. А ўвечары, як паведамляе РАР, усе ўбачылі па расейскім канале яшчэ адзін фільм - аб збіцці міліцыянтамі і АМАПам удзельнікаў нядзельнага Дня Волі ў Менску.

25 сакавіка святкаванні з нагоды Дня Волі адбыліся таксама ў ліцэях з беларускай мовай навучання, што ў Бельску і Гайнаўцы.

Ці нарэшце беларусы Беласточчыны пасьмялелі?..

======================================

## З БЕЛАРУСІ ВЫЯЖДЖАЕ ЎСЁ БОЛЬШ ГРАМАДЗЯНАЎ

На сталае месца жыхарства ў іншыя краіны зь Беларусі летась зьехала 14270 чалавек, сьведчыць Міністэрства статыстыкі й аналізу РБ. Зь іх больш больш за ўсё імігрантаў накіравалася ў Расею – 6808 чалавек, далей ідзе Ізраіль – 1700 чалавек, ЗША – 1316 чалавек, Нямеччына – 1306 чалавек. Астатнія памянялі Беларусь на Ўкраіну, Казахстан, Туркмэністан, Польшчу, Літву і нават Кыргістан.

======================================

## На дзяржаўны гімн Беларусі прэтэндуюць тры творы

**У другі тур конкурсу на новы дзяржаўны гімн краіны выйшлі тры творы.**

Як паведаміла БелаПАН галоўны спецыяліст упраўлення мастацтва Міністэрства культуры Тацццяна Пархамовіч, вынікі першага тура падведзены на пасяджэнні камісіі па правядзенні конкурсу на стварэнне тэксту і музыкі Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Камісію, нагадаем, узначальвае віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын.

Пераможцамі першага тура конкурсу сталі творы "Радзіма мая дарагая" (словы Алеся Бачылы, музыка Уладзіміра Алоўнікава), "Красуй, Беларусь!" (словы Леаніда Пранчака, музыка Васіля Раінчыка) і музыка Дзяржаўнага гімна БССР, створаная Нестарам Сакалоўскім у 1955 годзе. Акрамя таго, у другім туры конкурсу будуць разглядацца 117 варыянтаў слоў да гэтай музыкі. У камісію паступілі як варыянты новай рэдакцыі тэксту, напісанага Міхасём Клімковічам, так і арыгінальныя варыянты слоў гімна.

Закрануўшы лёс малітвы "Магутны Божа" (словы Наталлі Арсенневай, музыка Міколы Равенскага), прадстаўленай на конкурс грамадскасцю, Пархамовіч адзначыла, што мастацкія якасці твора атрымалі высокую ацэнку камісіі, аднак ён не прайшоў у другі тур.

"Сёння цяжка сказаць, чым закончыцца галасаванне ў другім туры і калі будуць аб'яўлены яго вынікі", -- заключыла Тацццяна Пархамовіч.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Ігнаруюць беларускамоўную адукацыю

**Мясцовыя ўлады ігнаруюць рашэнне Міністэрства адукацыі Беларусі аб пашырэнні сеткі беларускамоўных навучальных устаноў.**

Пра гэта ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН паведаміў старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" (ТБМ) Алег Трусаў.

"Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" была прынята Міністэрствам адукацыі ў жніўні 2001 года. У гэтай сувязі ТБМ звярнулася да кіраўніцтва аблвыканкамаў з канкрэтнымі прапановамі. У Брэсцкай вобласці, напрыклад, прапаноўвалася адкрыць нацыянальныя гімназіі ў Брэсце, Баранавічах, Пінску, Івацэвічах і Кобрыне, а таксама стварыць беларускамоўныя аддзяленні ў ВНУ абласнога цэнтра. У адказ на гэта, паводле слоў Трусава, у Брэсцкім аблвыканкаме заявілі, што нацыянальныя гімназіі ў названых гарадах могуць быць створаны "пры наяўнасці жадання вучняў і іх бацькоў".

--------------------------------------------------------------

## Паліцыя ў Атлянта падазрае…

Спэцслужбы ЗША падазраюць Рычарда Барткевіча - сына славутай гімнасткі Вольгі Корбут - у падробцы чэкаў на суму $30,000. Такую інфармацыю распаўсюдзіла "БДГ" са спасылкай на часопіс "Atlanta Journal - Constitution". Былы муж Вольгі, "пясьняр" Леанід Барткевіч, пакуль не фігуруе ў якасьці падазронага. Арышты таксама не чыніліся. Адвакат Вольгі Корбут заявіў, што ў спэцслужбаў няма ніякіх падставаў да зьвінавачаньня ейнага сына за фальшаваньне грошай. Фальшывыя грошы знойдзеныя ў доме, які Вольга Корбут прадала Леаніду Барткевічу неўзабаве пасьля разводу ў 2000 годзе.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^




КУРС ДОЛАРА

## Латвійскі Сойм адмовіўся ад расійскай мовы

Нядаўна на сваім нечарговым паседжанні латвійскі Сойм ухваліў змены ў Канстытуцыю краіны, скіраваныя на замацаванне манапольнага становішча латышскай мовы ў жыцці грамадства. Хоць Канстытуцыя Латвіі змяшчае артыкул аб латышскай мове як дзяржаўнай, партыі правай арыентацыі прапаноўваюць развіць гэты тэзіс яшчэ ў чатырох артыкулах Асноўнага закону, каб зрабіць сітуацыю незваротнай.

Распрацаваны партыямі ўрадавай кааліцыі законапраект патрабуе ўзаконіць латышскую мову ў якасці працоўнай у Сойме і самакіраваннях, а таксама прадугледжвае, каб дэпутаты парламенту краіны, прыступаючы да выканання дэпутацкіх абавязкаў, давалі ўрачыстае абяцанне «быць верным Латвійскай Рэспубліцы, абараняць яе суверэнітэт і дзяржаўную мову».

На пасяджэнні прысутнічалі 95 дэпутатаў з 100-мандатнага латвійскага Сойму. За прапанаваны законапраект аб гарантыях дзяржаўнасці латышскай мовы прагаласавалі не толькі дэпутаты партый урадавай кааліцыі, але таксама сацыял-дэмакраты і дэпутаты ад Новай хрысціянскай партыі. Супраць былі толькі 16 дэпутатаў фракцыі «За правы чалавека ў адзінай Латвіі».

Прыхільнікам расійскамоўя ў Латвіі цяпер будзе складаней даводзіць неабходнасць мець мову суседняй краіны за другую дзяржаўную.

--------------------------------------------------------------

## Суседства

**Чым плот вышэй, тым сяброўства здаравей? Літва ўмацоўвае граніцу з Беларуссю і Расіяй.**

Нядаўна адбылося пасяджэнне Кабінета міністраў Літвы, на якім была падтрымана прапанова Міністэрства ўнутраных спраў узмацніць граніцы з Беларуссю і Расіяй за кошт зніжэння выдаткаў на граніцу з іншай суседкай -- Польшчай. Польшчу зараз будуць "наглядаць" меншым складам памежнікаў.

"Такім чынам без дадатковых выдаткаў мы зможам узмацніць знешнюю граніцу Еўрапейскага Саюза, выкарыстоўваючы выключна ўнутраныя рэзервы памежных войск", -- заявіў на пасяджэнні Кабінета міністраў міністр унутраных спраў Літвы Йозас Бернатоніс.

Раней памежны атрад Лаздзіжай быў адказны толькі за 103-кіламетровы фрагмент літоўска-польскай граніцы, зараз ён будзе наглядаць і за беларускай.

Як сцвярджае эстонскае інфармацыйнае агенцтва "BNS", граніцы з Польшчай і Латвіяй у Літве разглядаюцца як у будучым унутраныя граніцы ЕС, а з Беларуссю і Расіяй -- як вонкавыя, а значыць, патрабуюць больш сродкаў і больш пільнасці.

*********************************************

## Трохмоўная «Новая зямля»

Беларускім фондам культуры (БФК) выдадзена кніга Якуба Коласа «Новая зямля» на трох мовах – беларускай, польскай і расійскай. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня БФК Уладзімір Гілеп.

91 ілюстрацыю да кнігі зрабіў вядомы беларускі мастак Васіль Шаранговіч. Наклад кнігі складае 5 тысяч асобнікаў, арыенціровачная цана – 15 тысяч рублёў. Кніга будзе прадавацца ў Беларусі, Польшчы і Расіі. У найбліжэйшых планах выдаўцоў – прадставіць выданне на кірмашы «*Книги России*» і правесці прэзентацыю «Новай зямлі» ў Польшчы. Паводле звестак першага намесніка міністра інфармацыі Станіслава Нічыпаровіча, на працягу 2000-2001 гадоў у Беларусі было выдадзена 15 твораў Якуба Коласа і Янкі Купалы, а таксама выданняў літаратуразнаўчага зместу пра двух вялікіх «беларускіх песняроў», 120-годдзе з дня нараджэння якіх адзначаецца сёлета. У гэтым годзе плануецца выпуск новых кніг.

Асаблівай увагі заслугоўвае праект выдання юбілейнай кнігі «Санеты» Янкі Купалы на васьмі мовах. Апрача таго, у найбліжэйшых планах выдавецтва «Мастацкая літаратура» – выпуск збору твораў Якуба Коласа ў 15-18 тамах і шмат што іншае.

=====================================

Калі-б хто з нашых чытачоў жадаў набыць гэтую кнігу, — просім пісаць або званіць на адрас нашае газэты...

# Вячаслаў Селях, 1885-1976 гг.

Да 115-годзьдзя з дня нараджэньня
Старонкі творчай біяграфіі

На жаль на радзіме, след, які пакінуў выдатны оперны спявак і тэатральны дзеяч Вячаслаў Антонавіч Селях практычна выкрэслены. Тыя невялікія звесткі, якія засталіся на Беларусі, не могуць у поўнай меры даць уяўленне пра гэтага чалавека, яго ўклад у скарбонку нацыянальнай беларускай культуры. Цудоўны, Богам даны голас, талент мастака, магутная працаздольнасць і вялікая любоў да бацькаўшчыны – якасці, якія паставілі яго ў шэраг першых асобаў нацыянальнага мастацтва Беларусі XX-га стагодзя.

Вячаслаў Селях нарадзіўся 25 (па некаторых звестках 21) снежня 1885 года ў м. Лагойск Барысаўскага павету Мінскай губерніі. У мясцовай пачатковай школе настаўнік, заўважыўшы ў маладога вучня добры і моцны дыскант, музычны слых і невялікія навыкі ігры на скрыпцы, уключыў яго ў школьны царкоўны хор. Як спявак-псаломшчык, жывучы пры царкве, В.Селях на працягу некалькі гадоў быў вядучым спеваком і прымаў удзел у службах. У 1901 годзе паступіў у настаўніцкую семінарыю ў Маладзечне, там В.Селях іграў на флейце ў семінарыскім аркестры, стаў першай скрыпкай створанага струннага квартэта. Спяваў у хоры і быў нават рэгентам у царкве. Рэлігійнае выхаванне і веданне законаў царкоўнай музыкі, далей прывядуць яго да уласнай кампазітарскай творчасці. Але ў тыя гады малады В.Селях зрабіў другі выбар, які вызначыў увесь яго лёс.

Пасля заканчэнні семінарыі ён працуе настаўнікам пачатковай школы ў г. Мегеляны на Віленшчыне, потым у чыгуначнай школе ў Лібаве. Там жа ў 1907-1910 г.г. у прыватнай гімназіі і рэгентам хору Нова-Аляксееўскай царквы пры вакзале. Ён захапляўся тады выступленнямі - Лабінскага, Касторскага ды іншых оперных спевакаў, якія прыязджалі ў той час у Лібаву. Апантаны нястрымным жаданнем пазнаць і авалодаць таемнасцю гуку, ведаючы пра свой выдатны голас ён вырашае вучыцца далей.

Напрыканцы жніўня 1910 года В.Селях прыязджае у Петраград, дзе паступае ў оперны клас кансерваторыі. Оперным класам кіраваў тады вядомы артыст, педагог, потым галоўны рэжысёр Марыінскага тэатру І.В.Тартакоў. Пад яго кіраўніцтвам В.Селях і пачаў апрацоўку свайго голасу - драматычны барытон-бас.

Яшчэ ў час вучобы ў кансерваторыі В.Селях спрабаваў свае сілы на прафесійнай сцэне. Тады ў Петраградзе існаваў "малады" (нядаўна арганізаваны) тэатр "Музыкальная Драма", якім кіраваў рэжысёр Лапіцкі. У ім і адбыліся першыя крокі В.Селяха на прафесійнай сцэне. Спачатку на другіх ролях, а потым ужо і на больш адказных. Пра гэта ўспамінае вядомы оперны спявак таго часу С.Ю.Левік: "Шмат харыстаў і выканаўцаў роляў другога плану пасля года – другога працы з поспехам сталі выступаць у якасці выканаўцаў першых партый. У першую чаргу гэта адносіцца да сапрано Немчанка, барытону Селяху, басу Луканіну… і інш." [i] Выступаючы сярод артыстаў "Музыкальнай Драмы", В.Селях выконваў ролі ў операх "Кармэн", "Майстарзынгер", "Багема" і іншых.

У складзе трупы "Музычнай Драмы", ён у 1914 годзе ўдзельнічаў у опернай вандроўцы па гарадах Волгі і Камы, якая стала для яго добрай школай авалодвання майстэрствам.

Скончыўшы на выдатна кансерваторыю, В.Селях спрабуе сябе ў конкурсе-іспыце, які праводзіўся ў лютым - сакавіку 1915 года ў Марыінскім тэатры. Конкурс вельмі вялікі - больш за 300 спевакоў марылі атрымаць запрашэнне ў склад Марыінкі, аднаго з лепшых оперных тэатраў свету. І камісія тэатра, на чале з вядомым дырыжорам Напраўнікам, абрала толькі двух - Селяха і Лебедзеву (лірычнае сапрана). Гэта адзначыў і аўтарытэтны часопіс "Тэатр і мастацтва": "... на апошняй спробе галасоў у Марыінскім тэатре прыкметна вылучаўся малады барытон В.А.Селях, уладальнік выключнага па дыяпазону і сіле голасу. Па чуткам, артыст будзе запрошан у склад трупы нашай казённай оперы. В.А.Селях вучань І.В.Тартакова."[ii] Адразу пасля конкурсу В.Селяху быў прызначаны дэбют на сцэне Імператарскага Марыінскага тэатра ў ролі Ігара оперы Барадзіна "Князь Ігар". Ён вытрымаў яго, як адзначыла прэсса, з поспехам[iii]. І 29 красавіка 1915 года, на асабістым бланку дырэктара Імператарскіх тэатраў Тэлякоўскага з'явіўся надпіс: "Вячаслаў Антонавіч Селях. Кантракт на год тысяча пяцьсот (1500 р) з 1 верасня 1915 па 1 верасня 1916. Тэлякоўскі."[iv] У гэты ж дзень спявак заключыў кантракт з Імператарскім Марыінскім тэатрам. З другога боку яго падпісаў кіраўнік Канторою Імператарскіх Тэатраў барон В.Кусаў. Так здейсніліся мары невядомага сялянскага хлопчыка з беларускай вёскі Лагойск, стаць акцёрам і ўзыйсці на мастацкі Алімп.

За дзевяць гадоў працы на сцэне Марыінкі спявак развіў свае здольнасці і атрымаў даволі вялікі вопыт. На сцэну разам з ім выходзілі першыя зоркі оперы таго часу – Шаляпін, Смірноў, Яршоў, Алчэўскі, Ліпкоўская. Рэжысёрамі, з якімі працаваў В.Селях, былі славутыя асобы – Меерхольд, Аленін, а таксама Лапіцкі, Багамолаў, іншыя. Ён выконваў першыя ролі ў операх - "Барыс Гадуноў", "Князь Ігар", "Хаваншчына", "Д'ябл", "Рыгалета" і іншыя. Крытыкі адзначалі: "... вялізны, змястоўны, добра падрыхтаваны голас < ... >, умелая фразероўка, выразная дыкцыя - станоўчыя якасці сп. Селяха ..." У Марыінскім тэатры выявіліся і яго здольнасці арганізатара і грамадскага дзеяча, якія потым яскрава адзначыліся на радзіме. На другі год працы В.Селях увайшоў у лік кандыдатаў у мастацка-рэпертуарны камітэт тэатра. А на наступны год В.Селях увайшоў у склад СДО (Савета Дзяржаўнай Оперы), які з'яўляўся вышэйшым органам самакіравання Дзяржаўнай оперы. На чале з ім, членамі СДО ад артыстаў-салістаў былі: Шаляпін, Адрэеў-2 і Яршоў (кандыдатамі – Тартакоў, Андрэеў-1, Бронская).

Падзеі, якія адбыліся ў краіне ў 1917 г. падзялілі грамадства на два лагеры - тых, хто паверыў і прыняў новую ўладу, паверыўшы ў гучныя лозунгі, і тых, хто адмоўна паставіўся да яе. Такое ж размеркаванне прайшло і ў творчых колах. Шмат асоб адразу абралі эміграцыю, не пажадаўшы супрацоўнічаць з бальшавіцкім рэжымам. Сярод тых, хто па розных умовах застаўся і прыняў новую ўладу, быў і В.Селях. Яму нават здавалася, што рэвалюцыя нясе ажыццяўленне сялянскай мары аб сацыяльнай раўнавазе і справядлівасці. Ён уключаецца ў палітычнае жыццё Расіі. У 1918 г. у час паездкі да сваёй жонкі ў Сімбірск, ён стаў міжвольным сведкам жахаў грамадзянскай вайны (ваенныя падзеі вяліся тады ў Паволжі). Амаль што адразу па прыезду ў Петраград у кастрычніку 1918 г. ён рыхтуе, па прапанове наркома Луначарскага, трупу артыстаў для паездкі з выступленнямі на фронт, на Урал. "... З прычыны вялікай зацікаўленасці і выключнага поспеха канцэртаў, якія ладзіць ансамбль артыстаў Марыінскага і Александрынскага тэатраў пад кіраўніцтвам артыста Селяха хадайнічаю аб працягу водпуска гэтым артыстам ..." . Пасля прыезду з фронту камандванне 3-й арміі зноў даручае Селяху "... скласць трупу для новай вандроўкі на фронт і ў рабочыя цэнтры Урала ..." . Практычна ўвесь сэзон 1918-19 г.г. В.Селях правёў у складзе "лятальных атрадаў" артыстаў на палях вайны на Урале, у Пермскай губерніі, на Гатчынскім фронце. Часцей ўсяго спяваць прыходзілася на адкрытым паветры.


М. Куліковіч-Шчаглоў, Н. Арсеньнева, В. Селях і А. Калубовіч. Беларускае Культурнае Згуртаваньне. Менск, 1944 год.


Вячаслаў Селях- Качанскі.


Беларускі хор у лягеры Бакнанг пад кіраўніцтвам сп. В. Селяха.

Але нельга думаць, што В.Селях цалкам захапіўся грамадскімі і палітычнымі падзеямі. Перш наперш, ён быў артыст, і гэта была яго асноўная дзейнасць. В.Селях шмат выступае, прымае ўдзел у пастаноўках новых спектакляў. Адной з апошніх, падрыхтаваных да выканання ў Марыінскім тэатры, была роля Пятра ў "Варожай сіле" Сярова ((1920). Рэжысёрам быў сам Ф.Шаляпін, які выконваў адну з галоўных партый - Яромкі.

Даволі цікава ўспамінае пра той час Вера Качан з Аўстраліі, жонка Антона Качана, з якім В.Селях заканчваў разам Маладзечанскую семінарыю. Яе жывая замалёўка дае ўяўленне і пра характар і прэм'ерскія звычкі артыста, і пра стаўленне да сваёй працы. "... хутка пасля рэвалюцыі, у канцы 1918 ці ў 1919 годзе < ... > Мой муж сустрэў Селяха ў Пецярбурзе: ён ішоў із сваім акампаніятарам дамоў. < ... > Селях расказваў шмат і цікава пра сваю оперную кар'еру, пра дружбу з Тодарам Шаляпіным, які яму аднойчы сказаў: "Помни, Селяшка, когда я уйду, только ты сможешь меня заменить." < ... > Праз пару тыдняў пазьней Селях даваў канцэрт у Гатчыне ў летнім тэатры. Нам пашчасціла дастаць білеты ў першым радзе. Селях убачыў нас із сцэны й пакланіўся. У ваднэй зь лежаў, блізка сцэны, чулася галосная гутарка. Селях перастаў сьпяваць, затрымаў рукой аркестру, падышоў бліжэй да месца, скуль чуўся гоман, і спытаўся: "Я, кажется, вам мешаю?" і выйшаў із сцэны. Дырэктар тэатру навёў парадак, і толькі тады Селях вярнуўся, каб працягваць канцэрт."

У кастрычніку 1924 г. В.Селях вяртаецца на радзіму. Ён прымае прапанову сп. Ігнатоўскага, які узначальваў тады Інбелкульт, выкарыстаць свой вопыт і талент для развіцця беларускай культуры, дапамагчы ў падрыхтоўцы прафесіянальна адукаваных кадраў у музычна-тэатральнай галіне. У тыя часы прыцягненне беларусаў, якія рэалізавалі свае здольнасці на ніве рускай культуры, для ўздыму нацыянальнай творчасці, было адным з прыярытэтных накірункаў культурнай палітыцы беларускага ўрада. Здольнасці В.Селяха як арганізатара, не кажучы ўжо аб сцэнічным майстэрстве, былі вельмі патрэбны "маладой" рэспубліцы. Па прызнанню

вядомага ў той час тэатральнага дзеяча і крытыка Ю.Дрэйзіна, у Мінску было тады ўсяго - "120 прафэсіяналаў музыкі" [xi] (спевакоў, музыкантаў, артыстаў, кампазытараў і г.д.). Вопыт такога майстра, як В.Селях, быў вельмі патрэбны.

Адразу, прыехаўшы ў Мінск, ён з галавою "кінуўся" ў працу, узначаліў музычнаю падсекцыю пры Інстытуце Беларускай культуры (1924-1929 г.г.), і заняў пасаду выкладчыка опернага і харавога класа ў Мінскім музычным тэхнікуме (1924-1928 г.г.).

Вядома, немагчыма гаварыць пра адраджэнне нацыянальнай культуры, не ведаючы яе карані, яе вытокі. Нельга спадзявацца на тое, што з'явяцца добрыя сучасныя нацыянальныя творы, без асэнсавання гісторыі народа, без пэўнай прапаганды культуры яго мінулага. Знаходзячыся на пасадзе кіраўніка музычнай падсекцыі пры Інбелкульце В.Селях добра гэта разумеў, таму і вырашыў прывабіць найбольш знаных творчых дзеячоў, накіраваць іх здольнасці ў гэтае русла. "... Прыступіўшы да працы, я зрабіў колькі нарадаў з асобамі, якія мелі тое ці іншае дачыненьне да беларускага мастацтва. Удзел у гэных нарадах даволі актыўна ўзялі спсп. Антон Грыневіч, ведамы ўжо тады зьбіральнік беларускіх мэлёдыяў і народных фальклерных песьняў, Тэраўскі – кіраўнік зарганізаванага ім хору, піяністы Ягораў, кампазітары Аладаў і Шнітман. Абодва апошнія былі ўжо запрошаныя выкладаць тэорыю музыкі й тэорыю кампазыцыі ў новым, толькі што адчыненым Музычным тэхнікуме. На гэтых нарадах было пастаноўлена, што музычная сэкцыя павінна складацца зь дзьвух камісіяў: камісіі зьбіраньня й вывучэньня народнае песьні й музыкі й камісіі вывучэньня беларускага народнага танцу. У сувязі з гэтым на кіраўніцтва камісіі песьні я запрасіў кампазытара – этнографа Прохарава, а на кіраўніцтва камісіі танцу – балетмайстра сп. Шчарбініна. Ён быў ужо ведамы як знавец танцавальнага фальклеру розных народаў – украінскага, польскага й расейскага." [xii]. Намаганні В.Селяха далі свой плён. Так былі здабыты і гарманізаваны шмат беларускіх народных песняў, сярод якіх: "Ой, рана на Івана", "Маладая дзяўчынанька", "А ў бары, бары", "Ой, ляцелі гусі", "Як у полі" і іншыя, а таксама агульнавядомы народны танец "Крыжачок".

"... Беларускае музыкі няма яшчэ, але яна будзе, яна павінна быць, бо ўжо ёсць неабходныя ўмовы для яе ўтварэньня: ёсць працаўнікі, ёсць жаданне працы, ёсць свабода і магчымасць гэтае працы, а што важней за ўсё: ёсць добрая, вельмі добрая аснова для музыкі – агульная музычнасць беларускага народу і яго прыгожая песня, ..." [xiii] - пісаў у тыя гады музыказнаўца Ю.Дрэйзін. Так, амаль так, разважаў і В.Селях. Вядома, што не ўсе дзеячы беларускай музыкі станоўча аднесліся да гэтага. Былі і тыя, хто вырашыў ісці сваім шляхам, але гэта ўжо не магло як-небудзь сур'ёзна паўплываць на накірунак, які вырашылі ўзяць творчыя дзеячы ў развіцці музычнай культуры Беларусі.

У той час у Мінску было два "цэнтры" падрыхтоўкі оперных кадраў – музтэхнікум і БДТ-1. У БДТ-1 сумесна з опернай трупай існавалі яшчэ балетны і драматычны калектывы. На сцэне тэатру ўжо ішлі пастаноўкі з удзелам хору, аркестру і балету. Да іх уліку можна аднесці спектаклі "Машэка" і "На Купалле". "На Купалле" як музычна-драматычны твор, лічыўся спробай стварэння музычнай драмы, ад якой да узнікнення сапраўднай оперы было недалёка.

В.Селях, працуючы выкладчыкам опернага і харавога класаў у Мінскім музычным тэхнікуме, звяртаў вялікаю ўвагу на падрыхтоўку прафесійных оперных спевакоў. Ён нясе ім класычную культуру сталічнага тэатра і высокія патрабаванні да прафесіі, каб паўплываць на своеасаблівы "правінцыяналізм", які ў той час назіраўся на мастацкай сцэне Беларусі. Сярод яго вучняў былі Пігулеўскі, Няборская, Ашкіназі, Т.Баначыч, Архіпаў і іншыя. Некаторы час у В.Селяха вучылася вакалу Л.Александроўская (ў будучым народная артыстка БССР і СССР), якая ўспамінае настаўніка ў сваіх пакуль неапублікаваных мемуарах. Займаючыся з вучнямі, В.Селях не забываў і пра асабістае майстэрства спевака. Ён быў яшчэ ў вельмі добрым стане і маючы выдатны голас, даволі часта спяваў на сцэне, падтрымліваў тым самым прафесійнаю "форму", добра ведаючы, што яна яму хутка спатрэбіцца. В.Селях выступаў па два, тры, а то і болей разоў у месяц. У рэпертуары яго канцэртных праграм былі творы Грэчанінава, Рахманінава, Шуберта, Глазунова, Леанкавала, Грыга, Сібеліуса і іншых кампазытараў, якія гучалі на беларускай, рускай, яўрэйскай мовах.

"... А Селях быў станоўча ў удары і цяжка казаць, што ў яго лепей было, бо ўсе было добра. Трагічна гучэў раманс Сібеліуса ("Шчасце зноў не прыйдзе"), поўны пяшчоты быў раманс Грыга «Кахаю цябе», шмат бадзёрасці было ў «Паляўнічым» Грыга і глыбозным сумам пранікальны быў «Апошні рэйс» Альнеса." - пісаў у водгуку на канцэрт крытык пад псеўданімам "Строгі" [xiv].

Прайшоўшы выдатную тэатральную школу, В.Селях на сцэне заўседы заставаўся акцёрам, а не толькі выканаўцам. Яго тэатральнай натуры было цесна ў межах стрыманых канцэртных паводзін. Усім - жэстамі, мімікай, раптоўным рухам - марыінскі прэм'ер разбураў стэрэатып звыкла-нерухомага, сканцэнтраванага толькі на мелодыі, "спеваў ля раяля". Гэта проста не магло застацца неадзначаным крытыкай. "... сьпявачка Несцярэнка і сьпявак Сэлях свае партыі ў оперных адрыўках правялі з непараўненым хараством. Яны захапілі слухачоў як поўным шчырага драматызму выкананьнем, так і прыгожымі галасамі. Гэта – праўдзівыя мастакі, якія добра разумеюць і выяўляюць намеры кампазітара, наколькі гэта магчыма зрабіць у канцэртным выкананьні. Асабліва Сэлях увесь час імкнуўся ня толькі пець, але і іграць, і празаічны сурдут надта яму перашкаджаў." [xv] - пісаў Ю.Дрэйзін.

У той час на Беларусі сваёй оперы яшчэ не было і пытанне пра яе стварэнне лётала ў паветры. "... Беларуская нацыянальная ўласная опэра тагды з'явіцца і запануе хутка, непараўнальна хутчэй, чымся гэтае наглядалася ў гісторыі расейскае опэры, бо < ... > існаванне нацаянальнае опэры ёсць адзін з самых неабходных элементаў развіцьця нацыянальнае беларускае культуры наогул, < ... > мы маем ужо такіх кампазітараў, якія і па талентнасці і па музычнай адукацыі стаяць непараўнальна вышэй, чымся расейскія кампазітары XVIII і пачатку XIX стагадзьдзяў ..." - лічыў Ю.Дрейзін.

Разумеючы гэта і сам хварэючы душою за оперу, В.Селях меў свой погляд на шлях яе стварэння: "... - стварыць опэру як музыкальную драму ў шырокім сымфанічным выглядзе; узяўшы за аснову нацыянальную беларускую народную творчасць, мэлёдыю, танец і быт. < ... > А пакуль свайго орыгінальнага няма – ёсць сэнс пачаць з перакладнага як аб гэтым кажа гісторыя опэры і ў Расеі, і ў Нямеччыне, і ў Латвіі, і ў Польшчы і г.д. Само ўжо стварэнне опэры з'явіцца галоўным штурхачом да таго, каб тады, як мясцовыя, так і іншыя музыкальныя сілы з большаю ахвотаю ўзяліся-б за пісанне беларускай опэры." [xvii]

Ад разважанняў аб нацыянальнай оперы да яе стварэння - вялікая адлегласць. Патрэбны быць умовы, сродкі, выканаўцы (спевакі, хор, аркестр) і г.д. У гэтай справе не павінна было быць дробязей. В.Селяху патрэбна было падрыхтаваць і аб'яднаць мастацкія сілы для стварэння беларускай оперы. Адным з першых яго крокаў, было стварэнне добрага харавога калектыву, без якога не магчыма было ажыццявіць мэту. В.Селях арганізуе ў жніўні 1926 года харавы студыйны калектыў у ліку 36 асоб, куды быў далучаны па прапанове Галоўпалітпрасветы, хор Галубка ў складзе 30 асоб. Ён становіцца галоўным кіраўніком і лектарам калектыву, а хормайстрам - Ягораў.[xviii] (У сучасных беларускіх даведніках стваральнікам і кіраўніком гэтага хору чамусці лічыцца Ягораў.) "... Наш хор у супрацоўніцтве з хормайстрам М.Мікалаевічам і піяністым А.Ягоравым пры музычнай падсэкцыі Інбелкульту амаль адразу і прыступіў да вывучэння харавых сьпеваў з оперы "Русалка"..." [xix] (У 1928 г. хор быў ператвораны ў Беларускаю дзяржаўнаю капэлу.)

"Русалка" Даргамыжскага была абрана не выпадкова. Па разуменню В.Селяха, - опера класычная, і дзея яе адбывалася на Дняпры, дзесці паміж Смаленскам і Жлобінам, г.зн. на Беларусі. "Русалку" можна было наблізіць да беларускага стылю жыцця і побыту. Але яе трэба было яшчэ перакласці на беларускаю мову, так, каб рытм тэкста супадаў з музычнай партытурай. За гэтую справу ўзяўся артыст БДТ-1 Ф.Ждановіч, які зрабіў усё належным чынам і даволі добра. Сам В.Селях рыхтаваў спектакаль да прэм'еры як рэжысёр і выканаўца галоўнай ролі.

14 і 15 мая 1927 года на сцэне БДТ-1 (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы), адбылася прэм'ера першай нацыянальнай оперы на беларускай мове. Да гэтага часу на сцэне тэатра ішлі толькі фрагменты ці асобныя дзеі з вядомых опер. Сам В.Селях выконваў ролю Мельніка. Вось калі яму спатрэбіліся ўсе тыя канцэртныя выступленні, для падтрымання прафесійнай "формы". Іншыя галоўныя ролі былі размеркаваны наступным чынам: Наталля - Несцярэнка, князь - Мацэлевіч, княгіня - Мартава, Вольга - Замешына, сват - Патапаў. Дырыжорам спектакля быў Макс Купэр, сваяк вядомага дырыжора Марыінскага тэатру, запрошаны ў той час на працу ў БДТ-1, былы дырыжор Вялікага тэатра ў Маскве.

"... Гэты спектакль ёсць да пэўнай ступені гістарычная падзея, а ня просты чарговы спектакль у шэрагу шмат іншых падобных. < ... > Бяручы пастаноўку "Русалкі" увогуле, трэба сказаць, што яна была бязумоўна ўдалая, бо дадатніх бакоў у ей было больш, чым адмоўных, і спектакль зрабіў на шматлікавую публіку вельмі прыемнае уражаньне. Прыгожыя дэкарацыі, прыгожыя малюнкі паасобных сцэн (асабліва карагоды ў 1-й дзеі, скокі русалак на дне Дняпра і інш.), прыгожыя вопраткі, - усе гэта вабіла да сябе вочы гледачоў і не магло не падабацца ...," [xx] - пісала аб спектаклі прэсса.

Для музычнай культуры Беларусі пастаноўка "Русалкі" набыла гістарычнае значэнне. Яна стала першай па сапраўднаму поўнай выкананай операй, без усялякіх купюр (скарачэнняў), якімі часта карысталіся рускія тэатры. Ад яе можна вясці адлік нараджэння сучаснай беларускай нацыянальнай оперы.

Арганізатарскія здольнасці В.Селяха кіраўніцтва вырашыла выкарыстаць для рэарганізацыі БДТ-1, дырэктарам якога ў жніўні 1927 года ён і быў прызначаны. З аднаго боку, гэтае прызначэнне было арганічным: увесь час пасля працы ў Расіі В.Селях падтрымліваў сувязі з гэтым тэатрам. На пасадзе дырэктара БДТ-1 ён змяніў вядомага грамадскага дзеяча, пісьменніка Язэпа Дылу, з якім супрацоўнічаў яшчэ ў Інбелкульце. Нечаканая змена кіраўніцтва і вынікі арганізацыйна-творчай дзейнасці, якія адбыліся за час дырэктарства В.Селяха, сёння могуць выклікаць розныя ацэнкі.

На першае ён працуе адначасова як кіраўнік і артыст. З 1921 года БДТ-1 меў у сваім складзе драматычнаю, балетнаю і опернаю трупы. І пад час першых гастроляў новага сэзону, якія адбыліся ў Віцебску, В.Селях выконваў партыі Фаўста ў "Вальпургіевай ночы" Ш.Гуно, князя Ігара ў "Палавецкім стане" з оперы "Князь Ігар" і г.д. Але з цягам часу кіраўніцтву тэатрам неабходна было аддаваць усе больш і больш моц і энергіі. Перад В.Селяхам былі пастаўлены пытанні аб рэарганізацыі драматычнага тэатра, пошуку сродкаў, удзелу ў аднаўленні складу артыстаў, змене рэпертуару і г.д. Ён запрашае на працу балетмайстраў Кірхгэйма і Багданава, а таксама балетнаю пару вядомых балетмайстраў Сямёнаву і Брэві. У падрыхтоўку спектакляў быў запрошаны вядомы рэжысёр Вінэр і мастак Волкаў з маскоўскага тэатра МГСПС. Яны ажыццявілі пастаноўку п'есы "Бронецягнік 14-69", якая выклікала неаднолькавую рэакцыю ў грамадскіх і мастацкіх колах, стала прычынай палемікі, тэатральных дыскусій 1927-1928 г.г., на якіх абмяркоўваліся далейшыя творчыя шляхі беларускага тэатра.

(Далей Будзе)

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...



**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. Роднае слова. № 2, 2002, Менск, 114 бач.
2. Спадчына, № 4/2001, Менск, 226 бач.
3. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. Юры Туронак, Менск, 2002, 144 бач.



Злева: Мікола Прускі, Віктар Швед і Лявон Кругліч. Варшава 1970 г.

## *Памяці Сяргея Карніловіча*

*Ты, Дружа, жыў за акіянам,*
*Цяжкім было Тваё жыццё.*
*І так зарана, нечакана,*
*У сне пайшоў у небыццё.*

*А як жа Ты любіў край родны,*
*Мову сваю і землякоў!*
*На жаль, ніколі Ты свабодна*
*Не мог паехаць да Бацькоў.*

*Бо на мяжы Цябе чакалі,*
*Калі Ты ехаў да сяла,*
*І разувалі, распраналі*
*Цябе заўсёды дагала.*

*А выпадкова знайшлі здымак —*
*Савецкай Арміі салдат!*
*І правяралі, ці магчыма,*
*Каб гэта быў Твой родны брат.*

*Цябе завезлі на машыне*
*У вёску да Тваіх Бацькоў,*
*На сена не ішлі ў адрыне —*
*Сямейных слухалі размоў.*

*Калісь Ты спаў, людскія цені*
*Ціха ўваходзілі ў гатэль,*
*Табе выкрадвалі з кішэні*
*З дакументамі Твой партфель.*

*Потым Ты ў роспачы знаходзіў*
*Дакументы пад тапчаном,*
*І быў шчаслівы пры нагодзе,*
*Што едзеш на аэрадром.*

*Пасля ганенняў, надта крыўдных,*
*У самалёце меў спакой.*
*Ляцеў за акіян, у Кліўленд,*
*У „Полацак" — асяродак свой.*

*Ты ўжо, Сярожа, спіш сном вечным,*
*Без тых ганенняў, без трывог.*
*За працьму здзекаў недарэчных*
*Узнагародзіць Цябе Бог.*

Віктар ШВЕД

*Ніва*

# Амерыканскія беларусы

На пачатку шасцідзесятых гадоў, пасля Хрушчоўскай адлігі, пачалі прыязджаць у Польшчу, а асабліва на Беласточчыну, вядомыя беларускія дзеячы сярэдняга пакалення са ЗША — Юрка Станкевіч, Мікола Прускі і Сяргей Карніловіч. Пасля свайго прылёту ў Варшаву яны найперш паяўляліся ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ на Сенатарскай 8, дзе я працаваў сакратаром і адначасова інспектарам Галоўнага праўлення адказным за працу сталічнага аддзела Беларускага таварыства. Якраз і за гэтыя візіты амерыканскіх беларусаў палітычныя ўлады Польшчы мелі да мяне прэтэнзіі.

Першым на Сенатарскай у Варшаве паявіўся Юрка Станкевіч, інжынер з Нью-Йорка, сын вядомага беларускага эміграцыйнага дзеяча, моваведа, доктара Янкі Станкевіча, аўтара многіх навуковых мовазнаўчых прац, заснавальніка і кіраўніка Беларускага навуковага таварыства ў Амерыцы аж да сваёй смерці ў 1976 годзе.

Юрка Станкевіч, старшыня Друкарска-выдавецкай суполкі „Пагоня", якая, між іншым, займалася выданнем падручнікаў для беларускіх дапаўняльных школ, звярнуўся да мяне з просьбай, каб я прызначыў да чарговага падручніка свае дзіцячыя вершы. Перадаў я Ю. Станкевічу некалькі дзесяткаў вершаў у машынапісе, падпісаных маім прозвішчам. Падчас праведзенага тамажнікамі на аэрадроме ў Варшаве асабістага кантролю ў Ю. Станкевіча знойдзены былі мае вершы. Пазнаёміўшыся са зместам вершаў (усе яны былі прыродаапісальныя і пачуўшы тлумачэнне, з якой мэтай ён іх атрымаў ад аўтара, тамажнікі вярнулі Ю. Станкевічу мае вершы. Паявіліся яны ў Нью-Йорку ў 1968 годзе ў *Чытанцы для беларускіх дапаўняльных школ*, укладальнікам якой была Валянціна Пашкевіч.

Зацікаўленне польскіх улад выклікала таксама асоба вядомага беларускага эміграцыйнага дзеяча філолага Міколы Прускага, сваяка Якуба Коласа. Ужо на пачатку пяцідзесятых гадоў у Гранд-Рэпідзе, штат Мічыган, заснаваў ён Беларускае выдавецтва, якое, між іншым, выдавала часопіс для моладзі „Беларускі свет", які публікаваў жыццяпісы беларускіх дзеячаў, мастацкія творы, успаміны. Дзякуючы энергіі і арганізацыйным здольнасцям М. Прускага, яго выдавецтва сталася сучасным прадпрыемствам, з якога выходзяць шматлікія беларускія публікацыі, у тым ліку выданні Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Ад некалькіх гадоў М. Прускі выдае штомесячную газету беларускага замежжа „Беларускі дайджэст".

Мікола Прускі прыязджаў на Беласточчыну з намерам знайсці сабе ў беларускім асяроддзі кандыдатку на жонку. Пазнаёміў я яго з дзяўчынай з вёскі Мора Марысяй Паўлючук. І калі ўжо Мікола аформіў ёй выезд у Амерыку, раптам Марыся адмовілася ад выезду. Пазнаёміла яна, аднак, Міколу са сваёй сяброўкай Верай Младзяноўскай з Кляшчэль, якая выйшла замуж за Міколу і выехала ў Амерыку. Маюць дзве дарослыя ўжо дачкі і жывуць шчасліва. Улады аднак мелі да мяне прэтэнзіі за маё сватаўства.

Надзвычай сімпатычным чалавекам з ліку заакіянскіх беларусаў аказаўся актыўны дзеяч Сяргей Карніловіч, які даволі часта прыязджаў у Польшчу, а асабліва на Беласточчыну. Мае добрыя знаёмыя даведаўшыся, што Сяргей таксама халасцяк, спрабавалі яго ажаніць. Аднак мэтай жыцця Сяргея была дапамога бедным беларусам, на Беласточчыне таксама, а асабліва падтрымка бацькоў, якія бедна жылі ў калгасе на Беларусі. Дапамагаць матэрыяльна людзям, гаварыў ён, можна толькі тады, калі ты не абзавёўся сям'ёю.

Жывучы ў Амерыцы па-халасцяцку, Сяргей Карніловіч знайшоў яшчэ другога філантропа — інжынера Кастуся Калошу, таксама адзінокага. Яны разам уклалі свае ашчаднасці ў набыццё ўласнасці ў Стронгсвіле каля горада Кліўленда ў штаце Агайо. Зарэгістравалі свой пасёлак як камерцыйную грамадскую арганізацыю і назвалі яго „Полацкам". У 1990 годзе тут збудавалі грамадскім коштам вялікі грамадскі цэнтр „Полацак", які стаўся месцам адпачынку беларусаў і месцам жыхарства яго заснавальнікаў — Сяргея Карніловіча і Кастуся Калошы. Калі я ў сямідзесятыя гады паехаў з Варшавы з Сяргеем Карніловічам на беларускі фэст у Беластоцкім павеце, беластоцкія ўлады мелі да мяне прэтэнзіі за тое, што я прывёз да іх амерыканскага беларуса.

Сяргей Карніловіч цяжка працаваў у Амерыцы шафёрам малочнай цыстэрны. Нечакана меў ён толькі лёгкую смерць — памёр, не хварэючы, у сне. „Хто памірае ў сне — не памірае, а проста не вяртаецца назад", — сцвердзіў беларускі паэт А. Філіповіч. І сапраўды, Сяргей Карніловіч будзе жыць заўсёды ў сэрцах усіх тых, хто з ім меў нагоду пазнаёміцца. Памяці Сяргея Карніловіча прысвяціў я свой верш, прыпамінаючы перыпетыі, якія беспадстаўна давялося яму дасведчыць у надта складаным жыцці.

Віктар ШВЕД

# Умелыя рукі музею

Толькі ўмелыя рукі польскіх беларусаў рушаць магутны музейны будынак у напрамку работы. Думаю, што даволі ўжо наспяваліся пра яго пабудову, а цяпер пара паказаць канцэпцыю работы Беларускага музея ў Гайнаўцы. Нельга далей у перадачах расказваць, што музей будуецца, што далей не стае грошай. Пачніце, спадары будаўнікі, урэшце дзейнасць і пакажыце людзям, што ахвяраваныя імі грошы не прапалі.

Не разумею, чаму да гэтай пары няма дырэктара музея. Старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея Ян Хіліманюк увесь мінулы год, ад вясны да восені, калаціўся над гэтай справай, каб урэшце неафіцыйна сказаць, што на аплату дырэктара няма грошай. Калі так, то яшчэ трэба дадаць, што як няма цара, то няма парадку.

На сённяшні дзень няма ўстановы, якой блізка была б справа беларускага музея. Дырэктара не выбралі, праграмы дзейнасці няма, улады горада Гайнаўкі з дапамогай не спяшаюцца. Атрымоўваецца свайго роду фарс. Нізка пахіляюся перад людзьмі, якія свой час і грошы, свае сілы прысвяцілі пабудове музея. Няма вашай віны ў сягоннішнім становішчы з музеем. Вынікла нейкая бездапаможнасць, хаос у справе, арганізацыйная путаніца і, як на смех, няма вінаватых. Сам ужо не ведаю, колькі гадоў чую: музей будуецца.

А калі пачне музей выконваць сваю місію? Што з ідэяй стварэння эстрады пры музеі, які быў бы цэнтрам культуры не толькі для самой Гайнаўшчыны, але і ўсяму беларускаму асяроддзю.

Шаную і цаню дапамогу Рэспублікі Беларусь, але ж і нам самім трэба ставіцца на ногі. Нават дзеля таго, што сорамна перад братамі беларусамі. А можа калі б падумаць пра вялікамаштабную дзейнасць музея і асяродка культуры, добра было б прыцягуць да супрацоўніцтва самаўрады Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Белавежы, Нараўкі, Сямятыч, Гарадка.

Дык давайце арганізавацца вакол гэтай ідэі, а ўсё добра закончыцца. Найвышэйшы час паставіць кампетэнтнага чалавека на дырэктара музея. Хай яднае, развівае, не дзеліць.

Юрка ХАРКЕВІЧ

**Дапіска:** Аўтар гэтага цікавага артыкулу чамусьці не ўспамінае, што беларусы Заходняга Замежжа перадалі на будову Музэю каля $40,000.oo даляраў. Думаем, што гэта проста недагляд аўтара…

# На прыцэле - паўсьвету?

Адміністрацыя прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша прапанавала Пэнтагону распрацаваць пляны нанясеньня магчымага ядравага ўдару па сямі краінах, сярод якіх - Расея й Кітай. У Пэнтагоне адмаўляюцца камэнтаваць інфармацыю пра гэта, распаўсюджаную шэрагам усясьветных мэдыяў.

Цытуючы сакрэтную справаздачу, падрыхтаваную ў Пэнтагоне, газэта Los-Angeles Times падае: сярод магчымых мішэняў амэрыканскіх ядравых удараў - Кітай, Расея, Ірак, Паўночная Карэя, Іран, Лібія й Сырыя.

Як падкрэсьлівае выданьне, вайскоўцы разглядаюць магчымасьць ужываньня ядравай зброі ў трох выпадках: у адказ на ўжываньне супрацівнікам ядравай, хімічнай ці біялягічнай зброі; удары па аб'ектах, якія могуць вытрымаць іншую зброю, а таксама "ў выпадках нечаканага разьвіцьця вайсковай сытуацыі".

Сакрэтная справаздача прэзэнтаваная амэрыканскім ваенным ведамствам сябром кангрэсу ЗША прыканцы тыдня. Пэнтагон павінен быць гатовым да выпадкаў ужываньня ядравай зброі на блізкаўсходнім канфлікце, у выпадку верагоднай вайны між Тайванем і Кітаем, а таксама ў разе нападу Паўночнай Карэі на паўднёвага суседа. Расея аказалася ў гэтым сьпісе толькі з прычыны таго, што сама валодае ядравай зброяй.

Раней ядравая зброя была фактарам стрымліваньня вайны. Цяпер яна стала сродкам яе вядзеньня. Гэты факт змагары за зьнішчэньне ядравай зброі разглядаюць як сыгнал пра намер ЗША перагледзець шматгадовую забарону на выкарыстаньне ядравай зброі скрайняга, апошняга сродку. Сыгнал гэты можа значна дэстабілізаваць сытуацыю ў сьвеце й спарадзіць у многіх краінах імкненьне валодаць зброяй масавага зьнішчэньня.

Прыхільнікі ініцыятывы амэрыканскага прэзыдэнта цьвердзяць: Пэнтагон мусіць быць гатовы да любога разьвіцьця падзеяў, асабліва цяпер, калі дзясяткі краін і тэрарыстычных груповак бяруць удзел у сакрэтных праграмах па стварэньні ядравай зброі. "У нас мусяць быць надзейныя аргумэнты супраць рэжымаў, якія маюць дачыненьне да міжнароднага тэрарызму й распрацоўкі зброі масавага зьнішчэньня" - заявіў адзін з прыхільнікаў новага праекту Джэк Спэнсэр.

## НАМ ПІШУЦЬ...

### Госьць з Летувы ў Мэлбурне /Аўстралія/

Беларускае грамадзтва Мэлбурну мела нагоду гасьціць у сябе беларускага дзеяча з Летувы, Сп. Хведара Нюньку. Сп. Х. Нюнька зьяўляецца старшынёю ТБК у Вільні.

Прыехаўшы ў Мэлбурн Сп. Нюнька апынуўся тут між беларусаў патрыётаў, якія маюць падобныя погляды да ягоных, і ўважаюць, што змаганьне за свой народ ёсьць абавязкам кожнага беларуса, дзе-б ён ні жыў у вольным сьвеце.



З лева на права: Аўген Груша, А. Шнэк, Х. Нюнька і а. А. Грыцук

Сп. Нюньку закватараваў у сваім доме Старшыня Фэдэральнай Рады БАА, Аўген Груша. Спатканьне з беларусамі Мэлбурну адбылося на зборцы Беларускага Сацыяльнага Клюбу ў прыцаркоўнай залі БАПЦ. У гаманлівай грамадзе госьця з Вільні віталі беларускія дзеячы Мэлбурну. Былі і іншыя спатканьні з меншымі і большымі групамі беларусаў.

Адбылося таксама падарожжа ў Адэляйду, дзе адведалі выбітных беларускіх людзей гэтага гораду. Тут-жа мясцовыя суродзічы арганізавалі пікнік з лятарэяй, даход з якой прызначыўся на падарунак Сп. Х. Нюньку...

Таксама беларусы Мэлбурну арганізавалі пікнік у вельмі прыгожым месцы, які прайшоў вельмі цікава і весела... ...
Разьвітаньне з госьцем адбылося ізноў у прыцаркоўнай залі. Быўшыя скаўты, а цяпер ужо пэнсіянеры прапанавалі прасьпяваць вайсковую малітву "Беларусь наша Маці Краіна", пасьля чаго было шмат прамоваў. Сп. Аўген Груша сказаў: Мы жадаем дарагому земляку Х. Нюньку, нязломнаму змагару за незалежнасьць Беларусі найлепшых посьпехаў і добрага здароўя... ...

Вось такім чынам закончылася візыта госьця з Вільні ў Аўстраліі...

*Аўген Груша і Я. Барысевіч.*

* * *

Ад Спадара Паўла Бурдзя з Вініпэгу, Канада, мы атрымалі апісаньні з пабыту беларускіх дзяцей на адпачынку ў Канадзе. Розныя краіны сьвету па рознаму стараюцца дапамагаць чарнобыльскім дзецям, а нашыя суродзічы ў сваю чаргу прыкладаюцца да гэтае дапамогі сваім шляхам.



Дзеці з Беларусі ў Канадзе. З правага боку на здымку: Паўло Бурдзь.

Сп. Паўло Бурдзь таксама шмат піша пра спартовыя падзеі з нядаўняе Алімпіяды ды іншае.

Дзякуем за цікавыя допісы і жадаем Паўлу і яго сям'і ўсяго найлепшага.

## ДВА СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў ЧЫКАГА, ЗША



Выступае сп. Вера Рамук.

Урачыста адзначалася нацыянальнае беларускае сьвята – Дзень Незалежнасьці, Дзень волі, 84-я ўгодкі БНР у чыкагскім Беларускім Рэлігійным і Культуральным Цэнтры (3107 W. Fullerton) пры каталіцкім храме Хрыста Збаўцы. Напачатку а. Джон Макданелл прачытаў малітву за беларускі народ і Беларусь. Сьвяткаваньне пачалося праслухоўваньнем Амэрыканскага гімну і выкананьнем беларускага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Сьвяточную цырымонію вёў доктар Эл Талавер. З прывітальным словам ад імя Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага да прысутных зьвярнуўся ветэран беларускага эміграцкага руху доктар Вітаўт Рамук. Мастак Анатоль Упарт прачытаў верш беларускага паэта Алеся Пісарыка, прысьвечаны Кастусю Каліноўскаму, палымянаму змагару за свабоду Беларусі. Пра гісторыю гэтага сьвята, пра яго значэньне менавіта сёньня гаварыў у сваім рэфераце журналіст Ванкарэм Нікіфаровіч. А потым адбыўся вялікі канцэрт кампазытара і сьпявака Міхася Клейнера. Гучалі яго песьні на словы Уладзімера Дубоўкі, Алеся Салаўя, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Грачанікава. Міхась Клейнер выканаў таксама песьні на свае ўласныя вершы, якія прагучалі ў перакладзе на беларускую мову.



У часе сьвяткаваньня Дня Волі ў беларускім рэлігійным і культурным цэнтры Хрыста Збаўцы ў Чыкага.

Пад час сьвята ў залі была разгорнута вялікая выстава цікавых новых беларускіх кніг, газэтаў, часопісаў. Завяршылася сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці выкананьнем славутай песьні "God Bless America", пры гэтым сьпэцыяльна было ўзгадана, што аўтар яе, Ірвінг Бейлін, родам з беларускага Магілёва. Прагучаў таксама і беларускі духоўны гімн "Магутны Божа". В. Н.

Сьвяткаваньні 25 Сакавіка адбыліся таксама ў Саўт Рывэр, Нью Ёрк ды Кліўленд.



**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыяднаўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**



17 сакавіка, у беларускім культурна-рэлігійным цэнтры пры праваслаўнай парафіі Сьв. Юрыя ў Чыкага, адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне Дня абвешчаньня БНР. Сёлета, па просьбе настаяцеля а. Дзімітра ўрачыстасьць была перанесена на тыдзень раней і супала з апошнім днём перад Вялікім постам — масьленіцай.

Сястрыцтва парафіі завіхалася цэлы дзень у суботу, каб прыбраць залю і прыгатаваць смачны абед з традыцыйнымі ў гэты дзень блінамі ды дранікамі.

Пачалося сьвяткаваньне з Набажэнства. Літургія, затым малебен за беларускі народ. У казаньні а. Дзімітры падкрэсьліў глыбокае хрысьціянскае значэньне акту 25-га Сакавіка. "Магчыма ўпяршыню, — сказаў ён — за ўсю гісторыю нашага народу знайшлася такая палітычная сіла, якая паставіла сваёй мэтай не выгаду нейкай там канфэдэрацыі, імпэрыі ці саюзу, а выгаду тых людзей, што жылі і працавалі на гэтай зямлі".

Афіцыйная частка пачалася ў парафіяльнай залі адсьпяваньнем гімна ЗША. Затым Юрка Каленік прачытаў мэмарандум губэрнатара штату Іліноіс і іншыя віншаваньні. З вельмі зьмястоўным і цікавым рэфэратам выступіў журналіст Мікола Прускі. Здаецца ўжо добра вядомыя факты беларускай гісторыі і незалежніцкага руху паўсталі ў новым выглядзе і ўспрыманьні. Але ня толькі пра мінуўшчыну гаварылася ў рэфэраце. Былі выказаныя і слушныя крытычныя заўвагі пра дзейнасьць сучаснай эміграцыі. Ці праўдзівей сказаць пра бяздзейнасьць... Варта адзначыць, гэта прагучала з вуснаў чалавека, які мае права крытыкаваць, бо сам шмат робіць і для Беларусі, і для беларусаў.

Пасьля афіцыйнай часткі пачаўся прафэсыйны канцэрт, артысты, што бралі ўдзел у ім, адносяцца да трох пакаленьняў беларускае эміграцыі. Першымі выступілі музыканты з гурта "Забава" — сярэдняе пакаленьне... На высокім прафэсіўным узроўні і з вялікім артызмам яны выконвалі народную і клясычную беларускую музыку. Сярэдняе пакаленьне прадстаўляў ужо добра вядомы юнацкі танцавальны гурт "Лянок". Яны выступілі з беларускімі народнымі танцамі, а таксама і з танцавальнымі ўрыўкамі з клясычнага балету. Завяршыў канцэрт Міхась Клейнер — сьпявак, кампазытар і паэт — старэйшае пакаленьне эміграцыі. Ён выканаў песьні і рамансы, як свае ўласныя, так і іншых вядомых беларускіх аўтараў.

І яшчэ важная падзея адбылася пад час сьвяткаваньня, Гэта — выстава беларускіх мастакоў. Спадзяюся, што гэта будзе штогод, талентаў дастаткова. Былі прадстаўлены амаль што ўсе жанры і накіраваньні сучаснага жывапісу. Відавочна, што шмат хто з захапленьнем любаваўся цудоўнымі, рамантычнымі пэйсажамі. Гэта дынамізм малюнка і сьціпласьць колераў — так званы беларускі "суровы стыль"...



**Частка ўдзельнікаў сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў праваслаўнай царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага, ЗША.**

Так наша сьвяткаваньне Дня Волі можна ўпэўнена назваць удалым і плённым. Былі задаволены ўсе госьці і запатрабаваньні. Шмат было і гасьцей, якія вынесьлі самыя добрыя ўражаньні... а. Дз.

* * *

Ад Рэдакцыі: У праваслаўнай царкве Сьв. Юрыя на сьвяткаваньні прысутнічала больш як 100 чалавек, а ў каталіцкай-уніяцкай царкве Хрыста Збаўцы прысутнічала больш як 50 чалавек.

**Наступны выпуск нашага выданьня — 100 № газэты !!!**